
Дзень Волі ў ліцэях →3


Віншуем са Святамі

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 14 (3073) Год LX | Беласток, 5 красавіка 2015 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Векавое беларускае Падляшша

**— Дзевяностагоддзе Віктара Шведа, сапраўднага песняра Беласточчыны, дзе ён нарадзіўся і адкуль выйшаў у вялікі свет, — было святам не толькі яго. Была гэта нагода спаткацца людзям, якія, як і ён, ад самага пачатку свайго творчага жыцця з родным словам, з «Нівай». Мілая і хвалюючая нагода пабачыць гэтых руплівуцаў на роднай ніве, — сказала Надзея Артымовіч пасля юбілею найбольш вядомага і роднага паэта. — Мой тата Еўдакім і мая мама Анна мелі «Ніву» ад першага нумара і я, як дзіцё, чытала яе як нашу настольную, сямейную газету, якая мацавала нашу свядомасць.**


Міхась Хмялеўскі, Яніна Чэрнякевіч, Надзея Артымовіч

Надзея Артымовіч дэбютавала ў «Ніве» 5 красавіка 1970 года, 45 гадоў таму вершам «Ой ляцелі гусі».

Віктар Швед дэбютаваў у 1957 годзе, на свой 32 год нараджэння, хаця пісаў ад маленства. Словы, выказаныя ім у творы «Я — беларус!» сталі дэвізам для яго нашчадкаў з Падляшша. Наша «Ніва» стварыла такую магчымасць цэлым пакаленням выказацца ў родным слове. Перш за ўсё ў вершах для дзяцей, на якіх яны вывучалі матчыну мову. І не толькі для дзяцей Беластоцкага краю. Цыкл вершаў для дзяцей змешчаны ў падручніку для беларускіх дапаўняльных школ «Чытанка» (Нью-Йорк), вершы для дзяцей змешчаны таксама ў падручніках для пачатковых беларускіх школ у Польшчы. Віктар Швед таксама сааўтар падручнікаў для пачатковых беларускіх школ «Дружба і праца» і «Насустрач жыццю» разам з Аляксандрам Баршчэўскім (сёлета ў лістападзе споўніцца яму 85 гадоў). «Ніва» і на два гады маладзейшае ад яе беларускае літаб'яднанне «Белавежа» сталі калыскай і хатай вялікаму колу цяперашніх пасівелых юбіляраў. У 2015 годзе споўніцца б 80 гадоў Юрку Геніюшу. Яніна Чэрнякевіч, шматгадовая «Зорка», сёлета адзначае таксама сваё васьмідесяцігоддзе. Амаль ад самага пачатку з «Нівай» была Марыся Федарук, якая тут адпрацавала 44 гады са свайго 80-гадовага жыцця, між іншым аддрукоўваючы тэксты нашых літаратараў і журналістаў, часам як адзіная сумеўшы разабрацца з іх завілістым почыркам, як у Аляксандра Баршчэўскага — Алеся Барскага, паэта і навукоўца. Сёлета ў чэрвені дзевяноста гадоў канчае Міхась Хмялеўскі першы адукаваны ніўскі журналіст (пасля журналістыкі ў Ленінградскім універсітэце), аўтар таксама трох зборнікаў прозы, які пачаў працу ў лютым 1956 года — калі рэдакцыя яшчэ была ў завязку. Пры «родах» ніўскай дачкі «Белавежы» быў таксама паэт і навуковец Янка Чыквін, у той час ліцэіст, якому сёлета ў маі будзе ўжо 75 гадоў. А тут за імі і малодшае пакаленне вучняў, якому сёлета разам... сотня — Ганна Кандрацюк і Яўген Вапа. Праз год — 90 гадоў споўніцца Васілю Петручуку, Дзмітрыю Шатыловічу, а Валянціне Жэшка і Віктару Буру — па



З роднай песняй. Віктар Швед з «Белым сном» (Марта Драль і Янка Хоха)



80, Надзеі Артымовіч — 70, Уладзіміру Саўчуку — 60...

— Кожны з нас даклаўся да беларушчыны як мог і ўмеў, паводле таленту ад Бога і ўласнай працы, — кажа Надзея Артымовіч. — І колькі здароўя гэта некаторых каштавала.

І кожны на сваім месцы, хаця лёс паганяў усіх па свеце. Але ёсць тыя месцы — жыццёвыя арыенціры, пункты, якія нас узгадавалі, у якія вяртаемся думкай і словам. Як у Віктара Шведа — Мора. Мора беларушчыны. «На гэтай зямлі ёсць вёска Мора — самая блізкая, самая родная, самая дарагая паэту. Дзе б ні быў і часова ні жыў Віктар Швед (а цяпер ён жыве ў Беластоку), ён заўсёды прыязджае туды, а ў думках і марах ніколі не расстаецца з ёю. І калі б мы нічога не ведалі ні пра гэтую зямлю, ні пра родную вёску паэта, а толькі прачыталі хаця б адну кніжку яго вершаў — гэтага было б даволі, каб мець уяўленне пра тое, як жыла і жыве Беласточчына, яе беларускае насельніцтва» (*Усе дарогі вядуць да Мора* — Яўген Мікалашэўскі). І піша пра іншыя асобы, знакавыя для нас, як Кастусь, што *Аддаў жыццё за наша шчасце, за волю, роўныя правы. Адкрыты нашы сэрцы насцеж — У іх Кастусь заўжды жывы.* І звычайных беларусаў, як будаўнікі Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку. Пра аратаяў на роднай ніве, што не дазваляюць ёй зарасці быльнягом. І няхай і балочыя высновы, але ўсё ж для падтрымкі нашага тут духу. А «Ніва» і іхнія кнігі няхай будуць настольнай хронікай беларушчыны і ў Бельску, і ў Гайнаўцы, і ў Беластоку, і ў вёсках на Падляшшы, і там усюды, дзе жывуць беларусы. І з роднай песняй.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**





# Зацьменне
## ў Беластоку

— Калісь было намнога цікавей. Нават жывёла вар'яцела, — пачаў С. — Каровы прыбеглі з папасу, бо думалі, што ўжо ноч. На панадворках разбрахаліся сабакі, бляялі авечкі, раўлі каровы, нават хатнія гусі падрываліся з гергетам да лёту. Усё жывое адчувала жах.

С. запамятаў яшчэ спецыфічны холад, які напамінаў яму від мерцвяка ў адкрытай дамавіне.

— А дзеці то ад страху пад ложак залазілі, — цягнуў свае дзіцячыя ўспаміны С., — баяліся што прыйдзе *мума* і забярэ іх у лес...

С. пашкадаваў, што не жыве ў сярэднявеччы, бо тады народ яшчэ больш баяўся канчыны. А зараз што? Усё зрабілася плоскім і прыгнечаным пустой балбатнёй, пасля якой нішто не цікава. Папраўдзе С. ленаваўся з'ездзіць са мной на гарадскі рынак, каб там паназіраць незвычайнае зацьменне Сонца. Таму ў рамках кампенсацыі ён трызніў пра бляяніне авечак і сярэднявечча. Прытым заўзята паўтараў:

— Беласток не верыць у абстрактныя з'явы!

Зацьменне Сонца выпала ў першы дзень вясны, 20 сакавіка, а яго беластоцкая кульмінацыя мела здзейсніцца роўна ў адзінаццаць. Ад рання, як на заказ, панавала сонечнае надвор'е. Аўра павінна паспрыяць грамадскай актыўнасці ды сабраць аматараў касмічных з'яў. Едучы на гарадскі рынак, я наткнулася на вясёлую групу дашкольнікаў, якія са спевамі тапілі падпаленае чучала *Маранны* ў замуленай Бялцы. Гэта быў жывы доказ існавання *мумы*! Паганскія традыцыі ніколі не пераеліся ў сталіцы Падляшша. І як на злосць, іх масава спраўлялі якраз у час давелікодных рэкалекцый, калі ачышчаная ад грахоў моладзь без толку і мэты кружыла па гарадскіх тратуарах у пошуках кагосьці-чагосьці. У глыбі душы мне хацелася іх пабачыць на гарадскім рынку, каб там разам перажыць захапленне зацьменнем.

Такая менавіта жыццярадасная кампанія ішла тры крокі перада мной у напрамку рынку.

— На каго як не на маладых нам спадзявацца, — падумалася мне на хаду пра патэнцыйных аматараў абстракцыі.

Ад гэтай думкі, насупраць правілам прыроды, мне зрабілася цяплей на душы. Зацьменне заўсёды спалучаецца з пранізлівым холадам.

Якраз перад гарадской ратушай, дзе мелі збірацца натоўпы, моладзь, нават нягледзячы ў той бок, шмыгнула ў кавярню. А да максімальнага зацьмення ў Беластоку заставалася ўсяго сем хвілін.

У цэнтры ля ратушы амаль усе лаўкі былі пустыя. Па плошчы тапталіся лічаныя асобы, тры з іх размаўлялі па-італьянску. Была яшчэ бабуля з унукамі, якая выйшла прагуляць малеч, зусім несвядомая зацьмення. У вочы кінуўся яшчэ маладзён са слесарскай маскай і люнетам для назірання. Увесь гэты „натоўп" выдатна папаўнялі журналісты, якія, не хаваючы злосці, бегалі туды-сюды, каб штось злавіць у аб'ектыў фотаапарата. Найбольш гледачоў прыкмеціла я ля дзвярэй кавярняў — гэта афіцыянты і кухаркі на міг адарваліся ад працы, каб зірнуць на касмічную з'яву. Раптам пачуўся пракураны, спеўны голас. Да мяне падсела цыганка і з ходу прапанавала:

— Давай, сэрцайка, пагадаю!

— Варажыце, — сунула я гадалцы ў рукі манетку.

Яе прапанова дзіўна мяне ўсцешыла. Праўда, хто нармальны адважыцца варажыць у час найбольшага зацьмення Сонца, калі неба пакрывае чорны цень, прычынаюца істэрыка і чорныя думкі. Мне аднак чамусьці было цікава. А можа душы невыносна хацелася драпануць ад гэтага пазбаўленага абстрактных думак гарадскога рынку. Цыганка, яна на тое і цыганка, каб пачуць твае думкі:

— Ніякай катастрофы не будзе, — адказала яна.

Пасля прадказала мне далёкае падарожжа.

— А калі пакладзеш у ручку *пенёнжэк*, — шаптала цыганка, — тады яшчэ больш нагадаю прыемнага...

Праўда самы прыемны сюрпрыз чакаў мяне на фейсбуку, дзе жыхары Беластока паставілі ўжо здымкі пра зацьменне ў горадзе. Паводле іх, найбольш «дзеялася» на гарадскім рынку, ля той жа ратушы. У адказ хацелася загергетаць на мове фейсбука: геге-ге-ге!

**Ганна КАНДРАЦЮК**



# Працэс
## перамяшчэння

Нарэшце азвалася напышліва маўклівая Агурак, кандыдатка ў прэзідэнты Рэчы Паспалітай з парукі СЛД, якая публічна адмовілася ад СЛД. Цікава, што скажа на гэта верны, хоць надкрышаны з году ў год левы электарат, які сёння хутчэй называецца сацыялдэмакратычным, да чаго асабліва імкнецца яго этыкетны прэзідэнт. Мілер, вядомы таксама пад мянушкай «ПАРПаўскі бетонамяшальнік» ці «Стаханавец». Хоць ніяк не ўдаецца яму цэментаванне левага крыла электарату, дык са стаханаўскай стараннасцю працягвае пастаноўку шэрагу бетонных стылістычных фігур у эстэтыцы сацрэалізму. Нядаўна, патрабуючы кампенсацыі для ахвяр рэформы Бальцаровіча, у выніку якіх Рэч Паспалітая выкараскалася з сацыялістычнай утопіі, але і, магчыма, не ўсе яе грамадзяне абтрэсліся з менталітэту жыхароў дзяржавы ўсеагульнага дабрабыту. Ці бетонны пастулат Мілера выразна накіраваны да выбаршчыкаў-сірот Самаабароны, спрычыніцца да спантаннага перанясення сваіх выбарчых галасоў на паню Агурак? А раптам? У рэшце рэшт, не ўсе ведаюць што дзіцячы вершык: «Юрак-агурак, каўбаса і шнурак» мае бясконцую фабулу, але ўсе мы памятаем, што там перыядычна паўтараецца матыў: «Бальцаровіч павінен сысці».

Палітычны компас у год прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбараў разагнаўся як біч. Ніхто, здаецца, не ведае, куды сысці мае прафесар Бальцаровіч, а куды мае ісці лявіца ды правіца. Ва ўсякім выпадку, левыя на шкоду ўсім грамадзянам даўно страцілі левы азімут. Гэтак жа, як правае крыло — правы. Першыя знемаглі ідэалагічнай атрафіяй, другія, разумова раздвоеныя на ГП і ПіС, дурэюць усё больш змардаваныя эпізадычнымі прыступамі — а то нацыянальнай параноі, а то партыйнай аўтадэструкцыі. Але ж закладваючы аснову для будаўніцтва сучаснай дзяржавы і грамадзянскай супольнасці, прафесар не меў на ўвазе таго, што сёння думаюць правыя і левыя, што ва ўмовах дэмакратыі, якая нарадзілася пасля родавых боляў яго рэформаў, можна плесці кашалі і рабіць усё, што вам падабаецца. Так, можна, пры адной умове, што за гэта прымаеш на сябе поўную крымінальную, цывільную і грамадзянскую адказнасць. Гэта тычыцца кожнага чалавека, любой палітычнай партыі. На польскай практыцы не разлічваецца палітыкаў з іх ілгунства і грамадзянскага здрадніцтва. Ані кіруючых партый з іх некампетэнтнасці або шкоднага насычэння дзяржаўных структур партыйнымі кадрамі. Ані грамадзян з колькасці выбарчых рахункаў.

Перадвыбарная барацьба за пасаду прэзідэнта паказвае нэндзу польскай дэмакратыі. Усе спасылаюцца на яе, але наўрад ці хтосьці пра яе клапоціцца. Лявіца прытым адраклася адказнасці за сваю левізну і больш паварочвае направа. Правіца — налева, боўтаючы прасацыяльнымі дэкларацыямі ў галовах сваіх разгубленых паслядоўнікаў. Прытым Агурак адмаўляецца ад сваёй левізны, а кандыдат ПіС Дуда, які даўным-даўно належаў да правага крыла Уніі свабоды, тае ад Мазавецкага і Герэмка, — хоць менавіта гэтыя ідэалагічныя яго падабенствы годна паказвалі яго ў маіх вачах. Але гэта не значыць шмат для Дуды, таксама і для партыі, прадстаўленай ім, пры ўсім ахопленай часовай ліхаманкай папулізму. На працягу некалькіх гадоў спасылаецца яна амаль на ўсе грамадскія колы ўнутрана супярэчлівымі абяцаннямі ў такіх агульных рысах. Пачынаючы ад тых, што дэкларуюць каталіцкую абарону маральнасці, і заканчваючы тымі пра ўваскрэсенне дзяржавы ўсеагульнага дабрабыту, усе яны лягуць пасля «крыжом перакрэсленняў». Таму, што папулізм не імкнецца выйграць нейкія каштоўнасці, але ўзяць тую ж уладу. Абяцанні, адрэзаныя ад крыніц каштоўнасцей, пустыя. Цяжка паверыць, што партыя, якая прыйшла да ўлады на аснове пустых абяцанняў, не развінецца з цягам часу або да адзінкавага, або партыйнага, або ідэалагічнага аўтарытарызму. Сумна тое, што аўтарытарызмы часта нараджаюцца ў нестабільных дэмакратыях — нестабільных тым больш, чым больш грамадзян адмаўляецца ад адказнасці за... дэмакратыю. Такі працэс ужо пачаўся ў Польшчы, пра што сведчаць выступы кандыдатаў у прэзідэнты. Яшчэ невядома, ад чаго адмовіўся або адмовіцца кандыдат Кукіз. Падобна як і іншыя менш вядомыя кандыдаты. Януш Палікот абверг усё, таму можа адрачыся ад самога сябе. Але засталася яшчэ асоба прэзідэнта Камароўскага. Ён таксама адрокся — ад палявання! Але за гэта якраз я яго пахвалю.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Культурныя Грыфы

Камісія па пытаннях культуры і прасоўвання Гарадской рады Беластока, старшынёй якой з'яўляецца радны Кшыштаф Стаўніцкі з ПіС, у прыватнасці дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Дабжыневе-Вялікім, па яго ініцыятыве заснавала прэмію «Культурныя грыфы». Прэмія будзе прысуджаца ў пяці катэгорыях: аніматар культуры, установа культуры, няўрадавая арганізацыя, мецэнат культуры і культурная падзея. Узнагароды павінны быць размеркаваны ўпершыню сёлета падчас чэрвеньскіх Дзён горада. Аднак пераможцы будуць ужо вядомымі ў канцы красавіка. Як заявілі радныя, сябры гэтай камісіі, было так вырашана, «маючы на ўвазе самыя прыгожыя беластоцкія культурныя традыцыі». Узнагарода мае ганаровы характар, не звязаны з фінансавым задавальненнем. Пераможцы ў кожнай катэгорыі атрымаюць дыплом і статуэтку (адбіты на шкле грыф — герб Яна Клеменса Браніцкага) і будуць мець права выкарыстаць выяву ў сваіх маркетынгавых матэрыялах. Выбіраць пераможцаў з ліку заяўленых прэтэндэнтаў будуць самі радныя з камісіі па пытаннях культуры. Мэтай узнагароды, якая будзе назначацца штогод, з'яўляецца м.інш. «падкрэсленне сутнасці культурных мерапрыемстваў у мясцовых супольнасцях», а конкурс — такую формулу мае мець вылучанне лаўрэатаў у адпаведнасці з рэгламентам — накіраваны на аніматараў, установы і цэнтры, грамадскія арганізацыі і мецэнатаў, якія дзейнічаюць у галіне культуры. Я ўважліва прачытаў правілы гэтай узнагароды, якая складае канкурэнцыю, як само сабой разумеецца, для ўзнагароды ў галіне культуры прэзідэнта Беластока (стартаваў ён у выбарах ад уласнага камітэта пры падтрымцы Грамадзянскай платформы). Я спрабаваў высветліць, за што менавіта радныя камісіі па пытаннях культуры хочуць вылучаць. Сам старшыня Стаўніцкі ў размовах з журналістамі сказаў:

— На працягу некаторага часу асяроддзі няўрадавых арганізацый паведамлялі аб неабходнасці ўшанаваць НДА і людзей, якія працуюць у сферы культуры. «Культурныя грыфы» маюць трапіць да гэтых людзей і ініцыятыў, якія ўзбагачаюць культурны бок Беластока.

У рэгламенце дэталізуюцца ўмовы атрымання «Грыфаў». Напрыклад, культурны аніматар можа атрымаць яго, між іншым, за «фармаванне свядомасці і рэгіянальнай ідэнтычнасці шляхам шырокай культурнай асветы, вядзенне дзейнасці дзеля інтэграцыі творчых асяроддзяў і анімацыі культурнага жыцця». Тое ж сцвярджэнне гучыць і ў спасылцы на катэгорыю няўрадавых арганізацый. З заявы старшыні Стаўніцкага вынікае, што важным будзе ўзнагароджванне, напрыклад, мецэнатаў культуры, якія прэзідэнтам дасюль не ўшаноўваліся. У самім рэгламенце гучаць толькі абагульненні, якія камісіі культуры і заадно конкурснай камісіі, несумненна палітызаванай гарадской рады, даюць шырокія магчымасці для манеўру. Калі я даведаўся пра «Культурныя грыфы», падумаў, што вылучэннем пераможцаў будзе займацца нейкі капітул, прызначаны раднымі, як гэта мае месца ў прэзідэнцкай прэміі. Але не. Самі радныя з камісіі па пытаннях культуры будуць вырашаць, хто павінен быць прыкладам для ўсяго беластоцкага культурнага свету («канчатковае тлумачэнне правілаў — за арганізатарамі»). Хто ж тады будзе гэтым аракулам? Чатырох радных Права і справядлівасці, чатырох з клуба Тадэвуша Трускаляскага, Славамір Назарук (клуб ГП) і віцэ-старшыня камісіі Войцех Каранкевіч, які ўвайшоў у Раду са спіска СЛД, а з'яўляецца прэс-сакратаром Падляшскай оперы і філармоніі, ініцыятывы якой, як і яна сама, могуць быць заяўлены да ўдзелу ў конкурсе. У склад культурна-конкурснай камісіі з дзесяці асоб па-за старшынёй, намеснікам старшыні і Славамірам Назаруком уваходзяць доктар эканамічных навук, адвакацкі стажор, трэнер валейбола і заадно настаўнік вядучы ўласную фірму, выкладчык палітэхнікі, дзеяч «Карытас» ды эксперт у галіне аховы здароўя. Калі б яшчэ «Грыфы» былі звязаны, так як гэта адбываецца пры прэзідэнцкай прэміі ў галіне культуры (катэгорыі: мастацкая, арганізатарская і аховы культурнай спадчыны), з грашовай дапамогай узнагароджаным дзеячам культуры, якая на працягу многіх гадоў у Беластоку (як і ўсюды) пакутуе ад недафінансавання. Аднак, не. Я не магу пазбавіцца ад адчування — па-за сумненнямі наконт канфлікту інтарэсаў у конкурснай камісіі радных Стаўніцкага, а асабліва Каранкевіча — што «Грыфы» можна будзе разглядаць як «палітычную» узнагароду, якая задавальняе амбіцыі радных, звязаных з пачуццём, што гэта яны ўплываюць на імідж беластоцкай культуры, спасылаючыся на прадстаўленыя іх палітычным заплечам светапоглядныя каштоўнасці, прыкрытыя загадкавымі, таму што не названымі, «самымі прыгожымі культурнымі традыцыямі Беластока».

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

**У гэтым годзе 25 сакавіка адзначылі мы 97-я ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Дзень Волі ў белліцэях і белгімназіях у Бельску і Гайнаўцы вучні святкавалі падчас адмысловых мерапрыемстваў. Адбыліся там беларускія турніры, лінейка, сустрэчы з гісторыкам і журналістамі. Вучні пісалі беларускую дыктоўку. На ўроках беларускай мовы белліцэісты і белгімназісты знаёміліся з падзеямі і паслядоўнасцямі Акту 25 Сакавіка.**



У турніры прынялі ўдзел 6 каманд, па трох вучняў ад усіх класаў Гайнаўскай белгімназіі (турнір вёў настаўнік Янка Карчэўскі)

# Дзень Незалежнасці

## ў бельскіх і гайнаўскіх школах

У кожнай са згаданых школ святкаванні адбываліся інакш і гэта козыр маладосці. У Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім, які называюць бельскай «тройкай», адбылася ўрачыстая лінейка, падчас якой вучні выступілі з патрыятычным слоўна-музычным мантажом. Падрыхтаваліся яны да святкавання пад кірункам настаўнікаў беларускай мовы Валянціны Бабулевіч і Андрэя Мароза. Моладзь у прысутнасці школьных сяброў з падставовай школы і гімназіі зачытала інфармацыю аб падзеях 1918 года і стварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі, дэкламавала патрыятычныя вершы і праспявала беларускія песні. У беларускім мерапрыемстве прыняла ўдзел таксама віцэ-дырэктар школы Ірэна Яблушэўская.

— На ўроках беларускай мовы мы таксама расказваем пра Беларускую Народную Рэспубліку, гаворым чаму 25 сакавіка святкуем Дзень Незалежнасці Беларусі. Аднак удзел ва ўрачыстай лінейцы, прымеркаванай да Дня Волі, слуханне гістарычных інфармацый і патрыятычных вершаў гэта супольнае перажыванне слаўных падзей з гісторыі Беларусі, важнае для фармавання нацыянальнай свядомасці нашай моладзі, — заявіў настаўнік Андрэй Мароз.

— У нашай школе мы здаўна адзначаем Дзень Незалежнасці Беларусі, ладзім лінейкі і на ўроках беларускай мовы расказваем пра падзеі 1918 года. У гэтым годзе я яшчэ рашыла прывесці старэйшых белгімназістаў у белліцэй на «Беларускі турнір», — сказала настаўніца Валянціна Бабулевіч.

У Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім старэйшыя вучні з дапамогай настаўнікаў арганізавалі першакласнікам «Беларускі турнір». Белліцэй у гэты дзень быў упрыгожаны бел-чырвона-белымі сцягамі, гербамі «Пагоня» і шматлікімі плакатамі, якія ў мінулых гадах выканалі першакласнікі ў рамках турнірнага спаборніцтва «Беларусь у маіх вачах». Белліцэісты з першых класаў падчас турніру спявалі гімн сваёй школы «Люблю наш край, старонку гэту», прэзентавалі свой клас, паказвалі для ацэнкі плакат «Беларусь у маіх вачах», расказвалі «беларускую казку» і змагаліся за першынство ў спартыўным спаборніцтве. У выніку першае месца заняў клас I «б», на другім месцы апынуўся клас I «д», трэцяе месца заняў клас I «ц», а чацвёртае — клас I «а». Настаўніца беларускай мовы Яўгенія Таранта, якая працавала ў журы, пахваліла белліцэістаў за іх цікавыя ініцыятывы, веданне беларускай мовы і вялікую ангажаванасць у ходзе турніру.

— Турнір, які мы тут бачым, цікавы. Ліцэісты спаборнічаюць з гумарам і адначасна паказваюць свае ўмеласці. Яны мусілі многа напрацавацца, каб падрыхтавацца да прэзентацый па-беларуску, — заявіў Кшыштаф Лушчынскі з класа III «ц» бельскай «тройкі».

Другакласнікі Бельскага белліцэя паехалі на экскурсію ў Цэнтр адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах, дзе з дакладам «Гісторыя 25 Сакавіка» выступіў прафесар Алег Латышонак з Універсітэта ў Беластоку. Журналіст Радыё Рацыя Радаслаў Дамброўскі запрэзентаваў свае новыя дакументальныя фільмы з серыі «Носьбіты культуры», пра беларускага гісторыка і дзеяча Юрыя Туронка і беларускага дзеяча, былога дырэктара Гайнаўскага дома культуры, а цяпер дырэктара Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі «Гайнаўка» Міколу Бушко.

— Мы арганізавалі сустрэчу ў рамках праекта «Традыцыя, сучаснасць, будучыня» для ўсіх ахвотных адзначыць Дзень Незалежнасці. Публіку ў галоўным саставілі вучні Бельскага белліцэя, з якім супрацоўнічае наш цэнтр, — сказаў арганізатар святкавання, старшыня Звязу ў карысць адукацыі і прамоцыі беларускай культуры «Шчыты» Ігар Лукашук.



Бельскія белліцэісты прэзентуюць для ацэнкі плакат «Беларусь у маіх вачах»




Белгімназісты з бельскай «тройкі» побач беларускіх нацыянальных сімвалаў

Вучні трэціх класаў напісалі ў Бельскім белліцэі беларускую дыктоўку, тэкст якой чытаў моладзі журналіст Радыё Рацыя Зміцер Косцін. Дыктоўку па-беларуску пісаў таксама дырэктар белліцэя Андрэй Сцепанюк.

— Мы рашылі ўключыцца ў масавы рух пісання беларускай дыктоўкі, якую падабраў нам і прачытаў Зміцер Косцін. Важнае, што нашы выпускнікі падчас святкавання мелі сустрэчу з журналістам Радыё Рацыя. Дыктоўка не была лёгкай і я пішучы яе, заапісаў ажно дзве вялікія старонкі. Будуць яе спраўджваць настаўнікі беларускай мовы і вучням, якія найлепш справіліся з дыктоўкай, паставім лепшыя ацэнкі, — сказаў дырэктар Андрэй Сцепанюк. У святочны дзень, напісаўшы дыктоўку, вучыліся толькі трэцякласнікі, якім засталося ўжо мала часу да матуральных экзаменаў. — Мы рашыліся зрабіць 25 сакавіка днём вольным ад навукі, каб моладзь адчула святочны настрой, калі мы адзначаем угодкі абвяшчэння незалежнасці Беларусі.

У Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы 25 сакавіка панавала святочная атмасфера, аб чым сведчылі беларускія нацыянальныя сімвалы — бел-чырвона-белыя сцягі і гербы «Пагоня» ў актавай зале і на калідоры. У Гімназіі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы настаўнік беларускай мовы Янка Карчэўскі арганізаваў турнір ведаў аб Беларусі і беларусах. Спатканне з белгімназістамі пачалося з гімна БНР «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Настаўнік Янка Карчэўскі коратка сказаў аб абвяшчэнні незалежнасці Беларусі ў 1918 годзе і святкаванні Акту 25 Сакавіка. Па тры асобы з усіх гімназічных класаў саставілі асобныя каманды, гатовыя змагацца ў турніры. Для шасці каманд Янка Карчэўскі падрыхтаваў да выбару вышэй і ніжэй ацэньваныя пытанні. Між іншым рассакрэчвалі яны абрэвіятуру БНР, называлі нацыянальныя сімвалы, ці вызначалі час перыядаў у беларускай літаратуры. Вучні называлі мясцовасці на нашай тэрыторыі, у якіх пражываюць беларусы, стараліся акрэсліць прыблізную колькасць жыхароў Рэспублікі Беларусь, называлі найбольшую раку ў Беларусі. Вучні наогул адказвалі правільна, а калі не ведалі адказу, то вядучы Янка Карчэўскі прасіў адказаць на пытанне вучняў з публікі. Пасля падвядзення вынікаў турніру аказалася, што найбольш балаў набралі і занялі першае раўнапраўнае месца вучні класаў II «а» і III «а», на другім месцы апынуўся клас III «ц». Трэцяе месца занялі класы I «а» і III «б», а чацвёртае месца — клас I «б». Падчас святкавання адбылося таксама падвядзенне вынікаў конкурсу арганізаванага сярод белгімназістаў на найбольш любімага настаўніка. Першае месца заняў настаўнік фізікі Дар'юш Мусюк, на другім месцы апынулася настаўніца фізкультуры Бажэна Шакала, а трэцяе месца занялі настаўнік фізкультуры Цэзары Шыкула і настаўнік гісторыі Каміль Кулік.

— Турнір быў цікавы. Слухаючы пытанні і адказы, можна было многаму навучыцца аб гісторыі і сучаснасці Беларусі, — сказалі белгімназісты, якія састаўлялі публіку. Яны апладзіравалі, калі правільна адказвалі іх аднакласнікі.

— Я рады, што нашы гімназісты так многа ведаюць аб Беларусі і жыцці беларусаў у нас, на Беласточчыне, што так добра гавораць па-беларуску. Бачу, што моладзі падабаецца такая формула гульні — адказы на пытанні па розных тэмах. Супольнае святкаванне Дня Незалежнасці нашымі вучнямі дае магчымасць адчуць атмасферу беларускага свята і спрыяе засвойванню ведаў, — сказаў дырэктар Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы Яўген Сачко.

— Мы рашыліся арганізаваць турнір, каб святкаванне Дня Незалежнасці было іншым, чым у мінулых гадах. Пытанні я падрыхтаваў такім чынам, каб вучні маглі пакарыстацца не толькі ведамі з урокаў, але таксама ведамі, якія могуць здабыць з беларускіх масмедыяў, — заявіў арганізатар турніру Янка Карчэўскі.

Пазней у Гайнаўскім белліцэі адбылася сустрэча вучняў з прафесарам Алегам Латышонкам на тэму Беларускай Народнай Рэспублікі і беларускай нацыянальнай свядомасці. Белгімназісты і белліцэісты павінны ведаць падставы сваёй гісторыі. Спатканне з беларускім гісторыкам было цікавым для бельскай і гайнаўскай моладзі. Вучні астатніх школ на Бельшчыне і Гайнаўшчыне, якія вучацца беларускай мове, таксама знаёміліся з гісторыяй Беларускай Народнай Рэспублікі на ўроках беларускай мовы, калі іх настаўнікі рашыліся на гутарку прымеркаваную да Дня Волі.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## Na Jubileusz 90-lecia Pana Wiktora Szweda

*Wielkie dziś święto w „Białostockich Spodkach”.*
*Wszyscy się spieszą Jubilata tu spotkać.*
*Znanego poetę Pana Wiktora.*
*Składać życzenia nadeszła pora.*

*Dziewięćdziesiątka to rzecz nie lada.*
*Życzenia wierszem składać wypada,*
*Bo nasz Jubilat to wielki poeta,*
*Wszystko tak pisał, piszą w gazetach.*

*Dzisiaj się szczyci wioseczka Morze,*
*Że takich ludzi wydawać może.*
*My dzisiaj również się bardzo cieszymy,*
*Wszystkiego dobrego Panu życzymy.*

*By dobrym zdrowiem Bóg też obdarzył*
*I lata życia jeszcze pomnożył.*
*Aby obficie wylał swe łaski*
*By nie korzystać jeszcze z laski.*

*Niech Pan się trzyma Panie Wiktorze,*
*A Dobry Bóg Niech Panu pomoże.*

***+ abp Jakub***
***Białystok, 22.03.2015.***

* * *

***Шаноўнаму Юбіляру***
***Віктару Шведу***
***Беласток, 2015.03.23***

*шаноўны пані і панове*
*послухайтэ на нашуй мові*

*про то, што нас тут прывэло*
*коб юбілеём нэзвычайным*
*на візчы нашум супэрфайнум*
*заворожыті всіэх змогло*

*тому дісь*
*квіэточкі своіх почуцюв*
*мы Юбіляру тлумно вручым*

*за вэршув дар, за сэрця зуов*
*што над лугамі мар звініт*
*мовою батькуов маніт*
*і свіэт малюе чаром слуов*

*і вэршом славіт*
*віэстіт вслух*
*про руодны дуом*
*і продкув дух*

*хай в сэрці грае Юбіляра*
*чудным звоном шчасця ліра*
*хай муза наповняе шчыро*
*чашу Віктора натхнёных марув*

***З пажаданнямі многіх гадоў***
***творчага натхнення***
***Віктор Стахвюк***

* * *

*І прыстань дзяцінства ў Моры*
*І ў Мора вяртанне Тваё,*
*І шчасце Тваё ў ім і доля,*
*І з Морам зллося жыццё.*

*Так лёгка чытаюцца вершы,*
*Дзіцячую знаеш душу.*
*Апошні з нязломных і першы,*
*Зрадні валадару-зубру.*

*Між вехамі роднай Айчыны*
*Жыццёвыя сцежкі праклаў,*
*Сагрэты крылом Валянціны*
*Взсёлкаю юнай зазззяў.*

*Жыві нам не сто, а шмат болей,*
*І словамі радуй, ратуй*
*Так вырашыў Бог — Тваёй доляй*
*Трымаць беларускасці кут.*

***Віктару Шведу ў юбілейны год***
***Kamunikat.org***
***сакавік 2015***

# Брат Эмануэль

Нельга забыць — так проста, і так складана. Сучаснасць і мінулае, так як жыццё і смерць, заўсёды суправаджаюцца. Паводле фрэйдаўскай тэорыі „смяротнай пульсацыі” ўсе жывыя арганізмы натуральна імкнуцца да неарганічнага стану, значыць, у нейкім сэнсе носяць у сабе прагу смерці. Пульсацыя жыцця і пульсацыя смерці — дзве біяментальныя сілы, на якіх заснаванае чалавечае існаванне. Яно натуральна абапіраецца таксама на патрэбу сувязі з другім чалавекам, найсамперш з роднай матуляй. Блізкія, глыбокія суадносіны з мамай прынясуць поспехі ў змаганнях з цяжкасцямі пазнейшага, ужо дарослага жыцця, — абяцаў англійскі псіхолаг, псіхіятр і псіхааналітык дваццатага стагоддзя Джон Боўлбі. Дзіцячыя досведы, першыя ўражанні ніколі не прападаюць. Яны пераўтвараюцца ва ўнутраны самастойны свет — дынамічную сілу, якая праяўляецца, у асноўным, у самых цяжкіх хвілінах. Усведамленне гэтых часта скангфліктаваных аспектаў нашай індывідуальнасці адназначнае з больш эфектыўным выхадам насупраць патрабаванням акружаючай нас рэчаіснасці. Вось гэта і ёсць сувязь сучаснага з мінулым. Тут мы павінны яшчэ раз звярнуць увагу на Фрэйда, які верыў, што, каб пазбыцца бяды, трэба спярша ўспомніць і зразумець непрыемны досвед ці здарэнне, а потым гэтаму інтэлектуальна-эмацыянальна супаставіцца і прыняць.


Здымак з архіва брата Эмануэля

Брат Эмануэль Юран жыве ў кляштары баніфратраў у Катавіцах, які месціцца ў адным будынку са шпіталем святых Анёлаў Ахоўнікаў. Як і ў кожным ордэне, яго дзень пачынаецца з супольнай малітвы, снедання, пасля якога ўсе разыходзяцца выконваць свае сталыя абавязкі. Эмануэль ідзе працаваць у аддзяленне ўнутраных хвароб.

— Люблю сваю працу і думаю, што мне ўдаецца наладзіць добрыя ўзаемаадносіны і з пацыентамі, і з супрацоўнікамі, — прызнаецца.

Кароткі перапынак на абед і зноў на працу. Вяртаецца са шпіталя каля гадзіны 16-й. Трошкі адпачынку, трохі вольнага часу, потым вячэра, святая імша і вячэрнія малітвы. Каля гадз. 20-й збіраюцца з братамі на спакойную размову, абмеркаванне таго, што спаткала іх днём. Можна тады паглядзець тэлевізар, з'есці што-небудзь смачненькае. У выхадныя робіць пакупкі, часам любіць пакатацца на роварах.

### — Раскажы, калі ласка, пра сваю дасюлешнюю жыццёвую дарогу.

— Я нарадзіўся ў 1983 г. у Мінску (яшчэ ў СССР). Бацькі назвалі мяне Антонам. Выхоўваўся я ў вялікім атэістычным горадзе, але часта адведваў бабулю ў вёсцы. Менавіта там вельмі палюбіў родную прыроду, прыляпіўся сэрцам да свайго краю. Як пайшоў у школу, то з вялікім трэскам развальваўся Савецкі Саюз і з першага класа вучылі мяне любіць Беларусь, усе прадметы былі на беларускай мове. У дзяцінстве я хварэў і часта бываў у шпіталях. Бацькі шукалі розных спосабаў, каб лячыць мяне. Нейкія знаёмыя параілі звярнуцца да экстрасенса-знахара. А ён у сваю чаргу сказаў, што добра было б ахрысціцца. І тады на пачатку 1990-х я разам з маёй мамай і сястрой былі ахрышчаны ў царкве св. Аляксандра Неўскага ў Мінску (бацька нарадзіўся ў вёсцы і бабуля ахрысціла яго малога). Але ў штодзённым нашым жыцці нічога не змянілася — ніякіх рэлігійных практык, ніякай малітвы. У дзяцінстве я меў шмат дачыненняў са шпіталямі, з сістэмай аховы здароўя. Магчыма гэта схіліла мяне паступіць у медыцынскі ўніверсітэт, які скончыў у 2007 г. Шмат задумваўся над жыццём, сэнсам свайго існавання і гэта прывяло мяне да зацікаўленасці рэлігіяй. У сям'і ніякай традыцыі ў гэтым плане не існавала. І я вырашыў далучыцца да Каталіцкага касцёла, бо там актыўна ўжываецца беларуская мова, а таксама для мяне больш блізкія заходнія каштоўнасці, чым расійскія. Я запісаўся на катэхетычныя заняткі ў Чырвоным касцёле (касцёле свсв. Алены і Сымона ў Мінску — рэд.), дзе па-сапраўднаму да майго сэрца трапілі словы пані Марыйкі (як яе ўсе называлі) — сціплай катэхеткі і адданай парафіяльнай працаўнічкі. Можа гэта вельмі смелае параўнанне, але адчуваю гэта так, што як праз Дзеву Марыю Хрыстос прыйшоў у гэты свет, так праз пані Марыйку Хрыстос прыйшоў у маё сэрца і я да канца жыцця буду ёй за гэта ўдзячны. Ужо недзе на другім курсе ўніверсітэта нарадзілася ўва мне жаданне пайсці ў ордэн. Пастанавіў спалучыць манаскае жыццё і працу лекара — таму і выбраў баніфратраў, якія ва ўсім свеце займаюцца апекай над хворымі і патрабуючымі. І вось, пасля заканчэння навукі ў 2008 годзе, я прыехаў у Польшчу, каб уступіць у ордэн св. Яна Божага.

### — Твае мэты...

— Галоўная мэта — гэта быць з Богам, быць збаўленым. Але, вядома, нашая жыццёвая вандроўка напоўнена шматлікімі меншымі мэтамі. Веру, што Бог хоча, каб я быў шчаслівы. А праца з хворымі, з добрымі людзьмі прыносіць мне шмат радасці. Прагну, на колькі гэта магчыма, быць карысным для патрабуючых і наследаваць нашага духоўнага айца св. Яна Божага.

### — Лёс манаха, мабыць, асабліва багаты на цяжкасці і выпрабаванні. Як з імі змагаешся?

— Гэта так, але напэўна лёс свецкай асобы можа быць нашмат цяжэйшы. Дапамагае малітва, дапамагаюць сувязі з добрымі людзьмі, дапамагае свядомасць, што ўсё заканчваецца і гэтая зямная вандроўка праляціць вельмі хутка.

### — Ці смерць паляпшае жыццё?

— Складанае пытанне. Як гаворыць Евангелле, зерне, калі не памрэ, то застанецца адно, а калі памрэ — дасць багаты плён. Паміранне ад пачатку прысутнае ў гэтым свеце і ў сувязі з прафесіяй мне вельмі часта прыходзіцца сустракацца са смерцю, з роспачу тых, хто страціў найбліжэйшых. Безумоўна, спачуваю ім, але таксама разумею, што такі парадак на гэтай зямлі. Без смерці няма працягу жыцця.

### — Крыху пра гістарычныя сувязі баніфратраў з Беларуссю...

— Баніфратры прыйшлі на Беларусь у часы Рэчы Паспалітай. У 1635 г. заснавалі яны кляштар у Вільні, потым прыбылі ў Навагрудак, Ракаў, Менск, Гародню, Высока-Літоўск. Займаліся апекаю над хворымі і патрабуючымі ў сваіх шпіталях-прытулках. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, 8 верасня 1818 года баніфратры адбылі ў Навагрудку адзін капітул новаўтворанай Літоўскай правінцыі, у якой бралі ўдзел прадстаўнікі кляштараў з тэрыторыі сучаснай Беларусі. А пасля паўстання 1830-1831 гадоў усе пляцоўкі ордэна ў Расійскай імперыі былі паступова ліквідаваны.

### — Радзівіл Мікалай Крыштоф „Сіротка” пісаў свайму брату, будучаму кракаўскаму епіскапу і кардыналу Юрыю: „Вашамосць ліцвін не паляк. Няхай Вашамосць зычыць свайму народу, каб пра яго таксама ведалі. (...) Я пэўны таго, што там (за мяжой) Вашамосць не палякам, але ліцвінам завецца”[1].

— Напэўна не ўкрываю свайго паходжання, стараюся як найлепей гаварыць аб сваёй Бацькаўшчыне, а нават удалося мне сарганізаваць выезд на Беларусь маіх польскіх прыяцеляў, якія былі вельмі задаволеныя з паездкі.

**Гутарыла Іаанна ЧАБАН**

[1] M. Karp, *Nawet nie mieliśmy dla nich nazwy*, [w:] *Księga Wielkiego Księstwa Litewskiego*, Sejny 2008, s. 380.


Здымак з архіва брата Эмануэля

■ З бацькам, сям'ёй і знаёмымі

# Сакрат Яновіч апісаны



Злева: Катажына Савіцкая-Мяжынская, Гражына Харытанюк-Міхей, Данута Завадзкая і Марцін Рэмбач

**Двухмоўную (польска-беларускую) кнігу „Sokrat Janowicz. Pisarz transgraniczny” складаюць навукова-даследчыя аналізы, эсэ, інтэрв'ю і ўспаміны сарака аднаго аўтара. Размеркаваны яны ў пяці частках на больш чым пяцьсот старонках. Кніга выйшла намаганнямі Філалагічнага факультэта Універсітэта ў Беластоку, у прыватнасці Калектыву рэгіянальных даследаванняў ды Кафедры беларускай культуры і іх навуковых работнікаў Дануты Завадзкай, Катажыны Савіцкай-Мяжынскай і Гражыны Харытанюк-Міхей. Да кнігі далучаны дыск Радыё Рацыя з інтэрв'ю Юрыя Ляшчынскага з памерлым ужо пісьменнікам з Крынак, размовай з ім Уршулі Шубзды і рэпартажам «Беларускія Трыялогі без Сакрата» Яны Запольскай.**

Абшырна пра ідэю кнігі, першапачаткова запланаваную на двухтомную, і яе змест пісалі мы з нагоды лістападаўскага сімпозіума, які адбыўся ва Універсітэце ў Беластоку. У сустрэчы ва ўніверсітэце, на якой упершыню кніга была прадстаўлена публіцы (20 сакавіка), удзельнічалі нявестка Сакрата Яновіча, Барбара і ўнучка Тацяна. Вядучы сустрэчу **Марцін Рэмбач**, старшыня Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь і заадно супрацоўнік Радыё Рацыя, пераконваў:

— Каштоўнасць кнігі заключаецца ў тым, што яна паказвае шматграннасць Сакрата Яновіча.

З пункту гледжання чытача, неабсталяванага ў «даследчы апарат», асабліва цікавая ў ёй частка «Паказаныні, інтэрв'ю, памяткі», і, у прыватнасці, інтэрв'ю на тэму пісьменніка ў многіх кантэкстах, якія ўзялі аўтаркі, між іншым у мастака Лявона Тарасэвіча, у пісьменнікаў Міхала Андрасюка, Ігната Карповіча ці паэта Яна Леанчука. Відаць з іх, якія вялікія эмоцыі Сакрат Яновіч выклікае да сённяшняга дня. У прадмове да кнігі можна прачытаць, што мае яна «змяшаны характар, аб'ядноўвае якасці рэцэнзаванай навуковай публікацыі, і нават крыніцы, са свабоднай мемуарнай формулай. На нашу думку, гібрыдная форма кнігі добра адлюстроўвае трансжанравую постаць пісьменніцтва Яновіча і яго індывідуальнасць: інтэлектуальныя зацікаўленні, літаратуру, арганізацыю культурнага жыцця, палітыку». Можна ў ёй знайсці публікацыі аўтараў, зацікаўленых творчасцю і жыццём Сакрата Яновіча ды звязаных з рознымі цэнтрамі ў Польшчы і Беларусі (Мінск, Гродна, Слонім).

Падчас прамоцыі публікацыі ва ўніверсітэце **Данута Завадзкая** запэўнівала:

— З самага пачатку мы хацелі зрабіць яе польска-беларускай кнігай. Мы хацелі, каб сфарміраваць кнігу на кантрапунктах, каб глянуць на Сакрата Яновіча з многіх бакоў. Гэта постаць, якая адкрывае дзверы на столькі бакоў, што трэба вяртацца да яго рэгулярна. Яго біяграфічны вопыт з'яўляецца часткай гісторыі рэгіёна.

Пасля адзначыла:

— У мяне дылема, таму што я, здаецца, мала ведаю аб беларускай культуры, каб зразумець Сакрата Яновіча. На мой погляд, насуперак таму, што сказаў мне Марцін Рэмбач, Сакрат Яновіч у першую чаргу пісьменнік, а не палітык. Яго пісанне, аднак, з'яўляецца не толькі эстэтычнай дзейнасцю. Мае вышэйшы ранг. Тым не менш, асновай з'яўляецца слова.

**Гражына Харытанюк-Міхей** сказала:

— Мая задача была ў тым, каб знайсці беларускамоўных пісьменнікаў, якія ведалі яго асабіста, прыязджалі ў Крынкі, якія сталі цэнтрам беларускай літаратуры ў Польшчы. Гэтая кніга з'яўляецца пачаткам дыскусіі аб Сакраце Яновічу і польска-беларускай літаратуры. Гэта пачатак даследаванняў гісторыі нашага рэгіёна ў выглядзе манаграфіі.

Яна прызналася:

— Для мяне гэта быў вельмі складаны чалавек, цяжка было яго зразумець. Кожны раз сустрэча з ім была адкрываннем яго нанова. У мяне было тое ж самае пры рэдагаванні кнігі.

**Катажына Савіцкая-Мяжынская**:

— Гэтую кнігу нельга чытаць ад вокладкі да вокладкі, але трэба вяртацца да яе, знаёмячыся з яе рознымі фрагментамі.

**Марцін Рэмбач** пераконваў на карысць свайго тэзіса:

— Я завадной спружыны для Сакрата Яновіча ўсё ж шукаў бы ў палітыцы. Я знаходжу яго вельмі эфектыўным палітыкам у экстрэмальных умовах пры спробах адраджэння беларушчыны, якія праводзіў у 60-х, 70-х гадах, падчас першай «Салідарнасці» і пазней.

**Данута Завадзкая** настойвала на сваё ўспрыманне пісьменніка:

— Найлепш палітыку рабіў пісаўшы.

У ходзе абмеркавання сацыёлаг прафесар **Андрэй Садоўскі** падкрэсліў:

— Сакрат Яновіч быў чалавекам самастойным, быў індывідуальнасцю. Нешматлікія з нас маглі б сабе дазволіць гаварыць так адважна. Даходзіў ён да далёка ідучых высноў, паказаў рэчаіснасць польскіх гарадоў на першым этапе ўрбанізацыі. Убачыў ён горад з перспектывы вёскі, бачыўшы яго штучнасць, а аўтэнтызм там, дзе нарадзіўся, у вёсцы. Ён паказваў гэты штучны свет, у якім трэба было неяк сябе паводзіць. І тыя гарады такія і былі. Лічыў, што беларушчына гіне ў горадзе, і людзі становяцца «мястовымі». У пачатку, пасля прыбыцця ў горад, было ламанне тоеснасці, а не будаванне новай. Доўга былося нікім. Спроба пабудаваць гарадскую ідэнтычнасць адбывалася за кошт беларускай, сельскай, рэлігійнай. Яновіч не мог гэтага змяніць, таму што працэсы былі занадта моцнымі.

І дадаў спрэчна:

— Сакрат Яновіч рэдка выкарыстоўваў паняцце нацыянальнай меншасці, гаварыў «беларусы». У Польшчы няма меншасцей. Ёсць беларусы, украінцы, палякі і г.д.

Журналіст, рэпартажыст **Мікола Ваўранюк**:

— Яновіч апісаў таксама шлях, які сам перайшоў ад этнічнага беларуса ў беларуса свядомага ў сэнсе нацыянальным. Скардзіўся, што беларусы не асвоілі горада, а гэта горад стварае свядомую нацыю. Ён з'яўляецца беларускай скарбніцай, якая нас, беларусаў, умацоўвала, дала фундамент.

Гісторык праф. **Алег Латышонак**:

— У кнізе відаць, наколькі Яновіч быў важным для палякаў як беларус-настаўнік. Толькі на самых палякаў аказвала ўражанне, што беларусы «забіраюць» Міцкевіча, Чачота з Занам... Для начытанага беларуса было гэта відавочным. Для нас ён не быў настаўнікам гісторыі, а хутчэй палітыкам, але не прафесіянальным. Палітыка была для яго інструментам беларушчыны, а тая — рэлігіяй. Ён хацеў адраджэння беларушчыны на Беласточчыне, якога меў быць лідарам, а мы — яго паручнікамі. Наш палітычны рух замёр, таму што быў надта слабы. Мы прайгралі. У пэўным сэнсе Крынкі былі для яго ссылкай. Але кніга ўсвядоміла мяне, што Сакрат быў беластоцкі.

У ходзе сустрэчы было вырашана, што патрэбная салідная манаграфія пра Сакрата Яновіча. Невядома, аднак — як прызналіся — хто мог бы адолець такую задачу.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

## Сіла вясновых почак

Ежце почкі раслін для паляпшэння самаадчування і ўмацавання арганізма! Вельмі добрыя почкі **бэзу.** Гэта цудоўны супрацьдыябетны сродак. Яны ўтрымліваюць вельмі шмат дубільных рэчываў і біяфлаваноідаў. Лічыцца, што калі проста пажаваць некалькі почак бэзу, значна палепшыцца страваванне. Вядомым фітатэрапеўтычным сродкам з'яўляюцца почкі **бярозы**. Яны ўваходзяць у многія зборы для лячэння



http://pl.wikipedia.org/wiki/Brzoza

і страўніка, і суставаў, і анкалагічных захворванняў. Почкі **вішні** лечаць шчытападобную залозу. Калі ў кагосьці ёсць сад, карысна час ад часу заходзіць і з'ядаць пару почак. Почкі ўсіх **іглічных** карысныя пры бронха-лёгачных захворваннях. Дзецям з маленькіх хваёвых шышачак і з почак можна варыць варэнне. Проста заліць іх сіропам, праварыць — дзецям спадабаецца. Такое варэнне добра дапамагае ад кашлю.

Вось адзін з самых цікавых рэцэптаў. Усе, хто мае сад, абразаюць **яблыні**. Вельмі шмат застаецца галінак, і часцей за ўсё мы іх выкідваем. А аказваецца, калі почкі абабраць разам з маленькімі галінкамі і потым дадаць да іх масла, трошкі праварыць і працадзіць, то атрымліваецца мазь, якая ўціраецца ў віскі пры галаўных болях, а дзеткам — калі яны слаба размаўляюць ці адчуваюць моцныя страхі. Асабліва гэта карысна дзяўчынкам, таму што яблыня — чыста жаночая расліна. Для падрыхтоўкі мазі можна ўзяць каля 100 грам почак на 200 грам сметанковага масла.

Вельмі каштоўнымі з'яўляюцца почкі **тапалі**. Яны дзейнічаюць як прапаліс і лечаць масу мужчынскіх захворванняў (асабліва прастатыт). 100 грам почак разам з маленькімі галінкамі трэба заліць гарэлкай, настойваць пры маладзіку Месяца 14 дзён, потым піць па 10-15 кропель у дзень.

Для сасудаў вельмі карысныя почкі **шыпшынніку**, **глогу, чарнаплоднай рабіны** (ароніі). Гэта не значыць, што маем падыходзіць да дрэва ці куста і, як зайцы, аб'ядаць усе іх почкі! Хопіць з'есці пару почачак. Рэкамендацыі для сасудаў актуальныя і для людзей з дэфектамі зроку.

Увесну таксама абразаюць **парэчку,** а гэта добры супрацьалергічны сродак, які прыводзіць у парадак усе сістэмы арганізму.

Почкі можна жаваць свежымі, а можна заварваць як гарбату. Для таго, каб почкі паспелі аддаць вадзе карысныя рэчывы, ім дастаткова настаяцца 5 хвілін.

На прагулках у чыстых месцах зрывайце і ежце па 1-2 почачкі розных дрэў. Усе яны аказваюць пазітыўны ўплыў на арганізм у цэлым. Галоўнае — не перабраць!

**Ясюк СТРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі




Бельская «Тройка» - Казка пра надта сумнага асла



Дзеткі глядзяць пастаноўку з Рыбакоў!

# Школьны тэатр на сцэне БГКТ



Гарадок і «Як яны жаніліся»



Бабікі - «Прыгоды трох парасят»

— Гульня ў тэатр дапамагае нам вывучаць беларускую мову, — кажа Юлія Жукевіч з Бабікаў.

Свой спектакль «Прыгоды трох парасят» пакажуць яшчэ для сяброў і настаўнікаў у час школьнага свята. У падсакольскіх Бабіках больш за палову дзяцей ходзіць на ўрокі беларускай мовы, разам 31 асоба. На сцэне вылучала іх менавіта мова! І нават па-за сцэнай Вераніка Рукша і Юлія Жукевіч хацелі размаўляць з намі па-беларуску. Брава дзяўчынкі! Такога, напрыклад, не ўяўляюць сабе ўжо гімназісты з Гарадка ці вучні з Гайнаўкі. Шыман Сянкевіч, цудоўна іграў ролю Заблоцкага ў пастаноўцы «Як яны жаніліся». За сваю ролю атрымаў вылучэнне. Аднак у размове па-за сцэнай ён карыстаўся польскай мовай. Калі гаварыць пра гарадоцкі спектакль, ён найперш меў падабацца самім «акцёрам»:

— Вучні хацелі, каб спектакль быў смешны і вясёлы, — кажа настаўніца Альжбета Раманчук.

Падобна прыдумалі ў Нарве. Нараўскія гімназісты выступілі з пастаноўкай «Багаты вечар у Сцяпанавых». Моладзі падабаліся ментальныя гутаркі аднавяскоўцаў, багата акрашаныя забабонамі і свойскім пачуццём гумару.

Настаўніца Ніна Абрамюк вядзе ў сваёй школе ажно чатыры тэатральныя гурткі — усе дзеля большага зацікаўлення мовай.

Як заўсёды, вылучаўся лялечны тэатр з Рыбалаў. У гэты раз дзеці паставілі п'есу на аснове народнай песні «Як служыў я ў пана». Хоць сама ідэя здавалася простай, гледачоў захапілі прыгожы спеў, казачны дэкор і лялькі. У час пастаноўкі наймалодшыя дзеткі жыва рэагавалі, смяяліся, а самі акцёры атрымалі самыя гарачыя апладысменты ад гледачоў.

Калі пра публіку — тут шмат недахопаў. Нашы акцёры пасля выступлення адразу з'язджаюць у свае мясціны. А шкада! Вось файны тэатр — тут мова пра дзяўчатак з праваслаўнай школы ў Беластоку — выступаў перад адной камісіяй.

Камісія прызначыла спецыяльную ўзнагароду для вучняў Непублічнага прадшколля імя святога Дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім. Выступленне дзетак сапраўды было найбольш прыемным для вока і душы, дапрацаванае ў моўным, сцэнічным і эстэтычным плане. Дашкольнікі пад кірункам Іаанны Хількевіч і Марты Зінкевіч паставілі спектакль на аснове «Казкі пра Алёнку і рэпку». Варта адзначыць, што ўсе ўдзельнікі атрымалі ўзнагароды, а сярод вылучаных акцёраў апынуліся **Насця Карчэўская і Ігар Лукашук** з праваслаўнага прадшколля ў Бельску, **Міхась Вардэцкі, Аня Мартыновіч** і **Марлена Кандрацюк** з бельскай «тройкі», **Юлія Корх** з Гайнаўкі, **Карнэлія Порац** з Нарвы і **Шымак Сянкевіч** з Гарадка.

Камісія, у саставе д-р Васіль Сегень, Яніна Плютовіч, д-р Аліна Фіяліновіч, прызначыла два першыя месцы тэатральнаму гуртку з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім за спектакль «Казка пра надта сумнага асла», ды калектыву з Нарвы за «Багаты вечар у Сцяпанавых». Другія месцы ўзялі тэатральная група з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім за пастаноўку «Байка пра бельскага цмока» і тэатральная група Гайнаўскага дома культуры за «Казу-манюку».

На трэцім месцы апынуліся вучні бельскай «тройкі» («Зайцы вараць піва») і гімназісты з Гарадка за сцэнку «Як яны жаніліся», а таксама вучні з беластоцкай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія («У школе»). Група з Бабік атрымала вылучэнне за спектакль «Прыгоды трох парасят».

Рыбалы атрымалі першае месца ў катэгорыі лялечнага тэатра! А Гранпры, як мы ўжо адзначылі, паехала ў праваслаўнае прадшколле ў Бельск.

Калі гаварыць пра новае сёлетняга агляду, які адбыўся 27 сакавіка г.г. на сцэне БГКТ у Беластоку, тут усё перакрыла эстэтыка: вынаходлівыя касцюмы і дэкоры. Словам, наш школьны тэатр зрабіўся больш цікавым для вока, то-бок візуальным.

**Фота і тэкст**
**Ганны КАНДРАЦЮК**

Міра ЛУКША

## Нашы буслы

Наш бусел з Афрыкі прыляцеў,
На стрэханьку сваю бусляну сеў.
Прыйдзецца гняздо старое ладаваць
І, удаўцу, другое жонкі пашукаць.
Хочацца добрую
спадарожніцу займець,
Дзетак узгадаваць,
зноў у Афрыку ляцець.
А буслянка старая яго, векавая,
Ледзь на голлі і шнурках
бусла трымае.
Трэба ўсё нанова складаці, павязаць,
І каханне на новае жыццё пашукаць.
Сустрэў бусел бусліху-ўдаву,
Даспадобы аказалася яму.
Разам удвое новае жыццё пачалі,
І ў нас спраўдную сямейку завялі.



Фота Адама ПАЎЛОЎСКАГА

# Стварaем легенды



Крыстыян Паскробка

Ці «Беларуская гавэнда», можа адбыцца без вучняў з Нарвы? Такога не могуць уявіць самі нараўляне! Для іх беларуская «гавэнда» — шматгадовая традыцыя і сапраўдны выклік.

Сярод сёлетніх лаўрэатаў апынуліся вучні гэтай школы: Крыстыян Паскробка (І месца) і Кацярына Порац (ІІ месца).

Яшчэ да цэнтральнага конкурсу ў Нарве арганізавалі школьную «гавэнду». Перад сябрамі з класа вельмі ўдала выступілі Агата Астапчук і Карнэлія Порац. Агата расказала казку «Першае яечка». Яна вельмі хвалявалася, бо гэта быў яе дэбют. І ўдалося! Агата зацікавіла і развесяліла публіку. А пяцікласніца Карнэлія падрыхтавала легенду «Аніська задумаў жаніцца». Яна таксама бліснула на сцэне. Дзяўчаты занялі два раўнапраўныя першыя месцы.

Як кожны год, выклік падняў Крыстыян Паскобка, зараз вучань гімназіі. Крыстыян падрыхтаваў легенду «Пра маладзіцу ў гарохавай спадніцы». Яго выступленне было настолькі вясёлае, што публіка плакала ад смеху. Такія эмоцыі не забываюцца, гэта таксама становіцца часткай жывой школьнай легенды.

*Ніна Абрамюк*

## Вершы Віктара Шведа

### Што ты, татуль, прысніў?

— Павінен ты, сынок,
Салідна навучацца.
І час той недалёк,
Каб лекарам мог стацца.

— Што ты, татуль, прысніў,
Мой дарагі, паслухай,
У жыцці я не забіў
Нават маленькай мухі.

### Не хачу так доўга спаць

— Пане доктар дарагі,
Стан здароўя ўжо благі.
Не магу я ноччу спаць
Працу нешта прыпісаць.

— Ёсць таблеткі ва Еўропе,
Іх на цэлы месяц хопіць.
Трэба толькі іх прымаць.
— Не хачу так доўга спаць!

# Магія беларускай хаткі

Ёсць асобы, якія адчуваюць моц музейных экспанатаў. Яны здольныя перанесці нас у мінулы, таемны свет. У атачэнні старых прадметаў мы самі пачынаем уяўляць сябе ў ролі сваіх продкаў. Беластоцкія гімназісты наведалі беларускую хатку, якая знаходзіцца ў «Склепе з культурай» у школе № 4. Як не дзіўна, адразу пасля перасячэння парога, кожны гімназіст «знайшоў» сабе цацку. Хлопцы аглядалі мэблю і прылады, а адзіная ў групе дзяўчынка Дар'я адразу звярнула ўвагу на калыску. І як нашы прабабкі, пачала яна гушкаць ляльку ў лазовай калысцы. Тут адразу хацелася б заспяваць беларускую калыханку, якой нашы бабулі і прабабкі супакойвалі плач немаўляці. Словам, задзейнічала магія «беларускай хаткі»!

(з-ка)



# Польска-беларуская крыжаванка № 14-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 7:

Анна, акула, свет, яно, пух, луста, носік, чарапаха, дар, кіт. Клунак, хор, Алі, сад, цукар, вятрак, вена, то, кот.

Узнагароды, беларускія сшыткі, выйгралі **Ігар Кардаш** з Нарвы, **Валерыя Люляк** з Міхалова, **Сара Скаўронская, Оля Пугацэвіч** з ПШ № 4 у Беластоку, **Аляксандра Куптэль** з Арэшкава, **Рафал Марчук** з Нараўкі, **Зузя Савіцкая, Аляксандра Мартыновіч, Ніна Місіюк, Зузя Бакер** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Віншуем!

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Kolor | Kock | | Chińskie imię | Jał | | | |
| | Szpak / As | | Naczynie | | Ola / Siła | | | | Jaś / Koszenie | | Start |
| | Droga | Prześcieradło / Róża | | | | | | | | | Tomik |
| | Spot reklamowy | | | | | | Miara | Art | | | |
| Bocian | | | | | | | | Sto / Lakier | | | |
| | Akt / Żuraw | | | | | | | | | | |
| | | | | | Grabie | | | | | | |
| | Skarb | | Jak | | | Oka | | | | | |

## Рукадзельнае мастацтва



Гмінны асяродак культуры ў Чаромсе рэалізуе праект «Школа знікаючага рамяства». У рамках праекта былі арганізаваны майстар-класы па саломапляценні, ганчарству, ткацтву і прадзенні на калаўротку, ды выконванні вырабаў з каляровай паперы. Заняткі праводзяцца з аўторка па суботу ў гадзінах 14-17. На занятті ў паасобных групах прыходзіць у сярэднім каля дзесяці ўдзельнікаў — ад дашкольнікаў па сенёраў. Гмінны асяродак культуры можа пахваліцца багатай калекцыяй вырабаў мясцовых умельцаў. Дасюлешні здабытак быў змешчаны на сарака дыяграмах і паказваўся публіцы на міжнародным фестывалі фолькавых сустрэч «З вясковага панадворка». Але гэта не ўсё.

21 сакавіка ГАК арганізаваў чарговае мерапрыемства — выстаўку рукадзельнага мастацтва. Гэта быў, можна сказаць, своеасаблівы велікодны кірмаш. А вось яго творцы.

Галіна Баравік рэкамендавала вязаныя кручком сурвэткі, абрусы ды гафтаваныя іконы. Падобныя вырабы паказала Тэрэза Барташук з нявесткай Ізабелай. Шыкарна прэзентаваліся вышываныя імі падушкі, макаты, сурвэткі. Майстрыхай кручковага гафту лічыцца Анна Ракоўская. На выстаўцы прэзентавала яна сурвэткі ды пацеркавую біжутэрыю, а ейны муж, Багдан Ракоўскі, паказаў вырабы з гліны. Іншае рамяство прэзентавала Іаланта Власюкевіч. Ейныя вырабы гэта рознага роду кошычкі з паперы. Верыць не хочацца, што такія жамчужыны можна зрабіць са старых газет, каляровых часопісаў ды журналаў.

— Рукадзельнае майстэрства вырабаў з паперы я вывучала перш-наперш з інтэрнэту, — гаворыць сяброўка Ёля (раней мы разам працавалі на чыгуначнай станцыі ў канторы перадачы). — Затым пачала ўдзельнічаць у майстар-класах пад наглядам Тамары Кердалевіч, якая была інспіратаркай майго хобі. Я асабліва задаволеная тым, што займаюся рукадзеллем.

Упершыню сваю багатую калекцыю прэзентаваў Здзіслаў Закшэўскі. Ягоныя драўляныя бочачкі, чары, місы ды грыбочкі выклікалі захапленне ў не аднаго любіцеля разьбянага майстэрства.

На чарговым століку прыкмячаю шыкарныя бутэлькі ды размаляваныя тэхнікай дэкупаж яйкі розных узораў. Гэта здабытак мастацкага рамяства настаўніцы Іаанны Раманюк. У падобным стылі красаваліся на суседнім століку каляровыя пісанкі-крашанкі Рэнаты Качаноўскай.

У чаромхаўскіх майстар-класах паспяхова ўдзельнічае Аляксандра Дзямянчык з Кляшчэляў. Яна захапляецца вырабам кветак з нейлону, біжутэрыі, яек і рознага віду звяркоў з лямцу. Вось што яна расказала пра сябе:

— У Кляшчэлі перасяліліся мы з Ольштына. Муж аформіўся на работу ў Ікеі. Я пакуль займаюся дамашняй гаспадаркай. Па прафесіі я лагапед. Але цяжка знайсці тут працу па маёй прафесіі. Пакуль што прыватна займаюся адным дзіцём. У вольным часе з задавальненнем удзельнічаю ў майстар-класах у чаромхаўскім цэнтры культуры. Пазнаёміліся мы з паняй Тамарай і сталі сардэчнымі сяброўкамі.

Да кола чаромхаўскіх рукадзельнікаў трэба прылічыць і Еву Росу з дачушкай Натальяй з Дашоў. Яны перасяліліся з Польшчы. А рашыліся яны на пастаяннае жыхарства ў Дашах, бо адсюль выводзяцца Евіны карані.

Абагульняючы вышэйнапісанае, чаромхаўскую выстаўку рукадзелля можна лічыць карысным мерапрыемствам на культурнай ніве. Каб ано не апошнім.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Беларуская мова — пропуск у звышгімназічныя школы



Удзельнікі ваяводскага этапу конкурсу па беларускай мове для гімназістаў

Перад гімназістамі-пераможцамі прадметных конкурсаў адкрыты дзверы ў прэстыжныя звышгімназічныя школы ва ўсёй краіне. Аднак выпускнікі гімназій на Бельшчыне і Гайнаўшчыне, якія сталі лаўрэатамі конкурсаў па беларускай мове, найчасцей працягваюць вучобу ў прэстыжных Бельскім і Гайнаўскім белліцэях. Атрыманне звання лаўрэата або фіналіста Ваяводскага гімназічнага конкурсу па беларускай мове гэта не толькі прэстыж і гонар, але таксама плён шматгадовай вучобы па-беларуску. Здольныя вучні прыступаюць да конкурсу па беларускай мове ўжо ў першым класе гімназіі, а некаторыя з іх нават па некалькі разоў запар становяцца лаўрэатамі. Да фінальнага этапу Ваяводскага гімназічнага конкурсу па беларускай мове, які 18 сакавіка адбыўся ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім, прыступілі 30 гімназістаў (12 вучняў з бельскай «тройкі», 7 асоб з Гайнаўскай белгімназіі, 5 вучняў з Гімназіі ў Нараўцы, 3 асобы з Гімназіі № 2 у Гайнаўцы, 2 вучні з Гімназіі № 7 у Беластоку і 1 асоба з Гімназіі ў Чыжах).

— Мне найцяжэй было перакласці тэкст з польскай мовы на беларускую. Практыкаванні па граматыцы мы выконвалі ў школе, таму прасцей было справіцца з імі. Цікавымі і нескладанымі былі аналізы вершаў, — заявіла Паўліна Дымовіч з Гімназіі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы.

— Цяжкасці паяўляліся, калі трэба было апісаць дэталі, напрыклад, з жыцця пісьменнікаў. Затое падабаліся мне вершы Наталлі Арсенневай і іншых эміграцыйных пісьменнікаў, якія трэба было аналізаваць. Матэрыял па граматыцы мы паўтаралі ў школе, таму конкурсныя моўныя пытанні не былі складанымі, — сказала Анна Чыквін з Гімназіі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, якая раней стала лаўрэатам конкурсу па біялогіі. — Беларуская мова цікавая, але я люблю таксама біялогію, і таму вучылася да конкурсаў па абодвух прадметах.

З гайнаўскімі белгімназістамі прыехала настаўніца беларускай мовы Анна Каліноўская, якая падрыхтавала ажно 5 канкурсантаў.

— Мы паўтаралі матэрыял па беларускай літаратуры, гісторыі, граматыцы, займаліся па прапанаваных на конкурс тэмах і пытаннях. Вучням цікавымі былі творы эміграцыйных пісьменнікаў — Наталлі Арсенневай, Масея Сяднёва і Ларысы Геніюш. Важна, што моладзь шырэй знаёміцца з беларускай літаратурай, — сказала настаўніца Анна Каліноўская.

Вучні гайнаўскай белгімназіі Мартына Панасюк, Юліта Рыбак, Беата Смактуновіч, Патрыцыя Лапінская і Юлія Бяганская выходзілі з конкурсу з надзеяй на поспех. У гэтым годзе з тэстам многа вучняў справілася толькі ў канцы адведзенага для конкурсу часу, чаго не бывала ў мінулых гадах, калі да канца з тэстам займаліся толькі адзінкі. Сведчыць гэта, што тэст не быў лёгкім. Уршуля Падгаецкая з Гімназіі № 2 у Гайнаўцы, якая доўга рыхтавалася пад кірункам настаўніцы беларускай мовы Аннаы Франкоўскай, звярнула ўвагу на складаныя для яе пытанні па граматыцы.

— Паяўляліся цяжкасці падчас адказаў на пытанні ў тэсце. Складаным было мне тлумачэнне з польскай мовы на беларускую, — заявіла Магда Кустынюк з Гімназіі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім.

— Я люблю аналізаваць вершы і ахвотна гэта рабіў падчас конкурсу. Тлумачэнне наконт школы было складаным, але думаю, што будзе добра, — заявіў Максім Фіёнік, першакласнік з бельскай «тройкі», які надзвычай добра справіўся з тэстам.

Некаторыя першакласнікі таксама апынуліся сярод тых, якія набралі найбольш балаў. Мусілі яны перарабіць матэрыял, якім на ўроках займаліся другакласнікі і трэцякласнікі. Оля Дзямянюк, Юлія Банькоўская і Магдалена Навіцкая з бельскай «тройкі» сказалі, што падабаюцца ім заняткі беларускай мовы і таму ахвотна прыступілі да прадметнага конкурсу па беларускай мове і многа папрацавалі, рыхтуючыся да чарговых этапаў. Дзяўчаткі былі рады, што конкурс закончыўся і выявілі надзею на атрыманне звання лаўрэата. Хаця амаль усе вучні бельскай «тройкі» паступаюць на далейшую адукацыю ў Бельскі белліцэй, то важна ім атрымаць званне лаўрэата, бо ў «тройцы» вылучаюцца вучні, якія становяцца лаўрэатамі і фіналістамі прадметных конкурсаў. З Гімназіі ў Нараўцы са сваёй настаўніцай беларускай мовы Аннай Кандрацюк прыехалі пяць вучняў: Мая Радзіванюк, Бартош Ламашкевіч, Вікторыя Барэчка, Магда Бяляўская і Уршуля Марчук. У размове звярнулі яны ўвагу на цікавыя вершы Наталлі Арсенневай, Масея Сяднёва і Ларысы Геніюш, якія аналізавалі, гаварылі пра складаныя моманты падчас перакладу і рашэння граматычных пытанняў.

— Тэст ваяводскага этапу прадметнага конкурсу па беларускай мове для гімназістаў быў цяжкім, можна сказаць, што адзін з найбольш складаных на працягу апошніх 10-15 гадоў, калі я старшынствавала праверачным камісіям конкурсу. Напрыклад, вучні павінны былі ведаць розныя дэталі з жыцця Наталлі Арсенневай і па гэтай прычыне паяўляліся праблемы. Складанасці паяўляліся ў гімназістаў, калі пісалі аб жыцці Масея Сяднёва. Лягчэй было ім аналізаваць творчасць Наталлі Арсенневай, Масея Сяднёва і Ларысы Геніюш. Аднак я рада, што ў тэсце быў аналіз менавіта эміграцыйнай літаратуры, якая цікавая. Цяжкім быў пераклад на беларускую мову, дзе былі словы з жыцця школы і былі праблемы з правапісам састаўных лічэбнікаў. Аднак усе пытанні тэсту тычыліся матэрыялу, які мы пераараблялі ў гімназіі на ўроках беларускай мовы і рыхтуючыся паводле сёлетніх конкурсных прапаноў. У цэлым узровень напісання тэстаў вучнямі быў нядрэнны, нягледзячы на цяжкасці, — сказала пасля праверкі пісьмовых работ і падвядзення вынікаў конкурсу старшыня конкурснай камісіі Валянціна Бабулевіч, настаўніца беларускай мовы ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім. — Добра ў вучняў атрымліваліся напісаныя пажаданні з нагоды святкавання дня нараджэння. Гімназістам трэба было таксама адпаведна напісаць у тэсце назоўнікі, прыметнікі, ці дзеясловы, з чым яны наогул справіліся.

Візітатар Кураторыі асветы ў Беластоку і заадно асоба адказная за арганізаванне прадметных конкурсаў Ганна Марэк наконт Ваяводскага гімназічнага конкурсу па беларускай мове выказалася ў Бельску наступным чынам:

— Мы ў гэтым годзе вярнуліся да прынцыпаў вылучання лаўрэатаў, якія былі раней, бо мінулагодня правілы крытыкаваліся. У мінулым годзе лаўрэатамі маглі стаць толькі 5-7% асоб ад агульнага ліку ўдзельнікаў конкурсу. Да прадметнага конкурсу па беларускай мове прыступала намнога менш асоб, чым да іншых прадметных конкурсаў і таму лаўрэатамі па беларускай мове магло стаць намнога менш асоб, чым вучняў іншых прадметных конкурсаў. Цяпер, каб стаць лаўрэатам, трэба ізноў набраць прынамсі 80% магчымых да здабыцця балаў падчас ваяводскага этапу конкурсу. Аднак, калі лаўрэатаў многа, ёсць магчымасць абмежаваць іх колькасць, — сказала спадарыня Ганна Марэк, адказаная ў Кураторыі ў Беластоку за арганізаванне прадметных конкурсаў. — Вялікія прывілеі падрыхтаваныя для лаўрэатаў прадметнага конкурсу па беларускай мове, арганізаванага для беларускай нацыянальнай меншасці і для іншых ахвотных вучняў. Будуць яны прыняты ў кожны ліцэй у нашым Падляшскім ваяводстве і па-за ім, ва ўсёй Польшчы, так як лаўрэаты іншых прадметных конкурсаў. Конкурс па беларускай мове — гэта адзіны конкурс, што арганізуецца ў нашым ваяводстве для нацыянальных меншасцей. У Падляшскім ваяводстве ўкраінскай мове вучацца ўкраінцы, літоўскай — літоўцы, але прадстаўнікі гэтых меншасцей не выступалі да нас з прапановай арганізаваць для іх прадметныя конкурсы па ўкраінскай і літоўскай мовах і таму такіх конкурсаў няма.

Пасля праверкі прац і падвядзення вынікаў конкурсу аказалася, што найбольш балаў, бо ажно 76, атрымалі Паўліна Дымовіч і Юліта Рыбак з Гімназіі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы. Па 74 балы набралі Уршуля Марчук з Гімназіі ў Нараўцы і Уршуля Паўлючук з Гімназіі ў Чыжах. 73 балы здабыў Максім Фіёнік з Гімназіі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім. Па 72 балы здабылі Анна Чыквін з Гайнаўскай белгімназіі, Юлія Банькоўская і Аляксандра Дзямянюк з бельскай «тройкі», Вікторыя Барэчка і Мая Радзіванюк з Гімназіі ў Нараўцы. 71 бал атрымалі Патрыцыя Лапінская з Гайнаўскай белгімназіі ды Патрыцыя Нічыпарук і Кацярына Верэмяюк з бельскай «тройкі». Дакладную колькасць лаўрэатаў, з ліку 30 удзельнікаў ваяводскага этапу конкурсу, вызначыць Кураторыя ў Беластоку, бо за ёй такое права.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Пра менш вядомы Райск (ч. II)

А жыццё, не толькі ў Райску, было больш складанае і не ўсе яго бакі можна было ў той час асвятляць. Мабыць і з Райскам тадышнія ўлады мелі нейкі клопат, бо дваццацігоддзе раенскай трагедыі адзначылі не ў 1962 годзе, але годам пазней. А кніга Шулецкай чакала аж каля дзесяці гадоў з часу яе друку да часу дазволу на публічны распаўсюд; раяне маглі знаёміцца з ёю раней з аўтарскіх асобнікаў. І не ўсё ж магчыма апісаць, нават цяпер. Ды ўсё ж такі нешта можна дадаць. Для прыкладу — час „першых" саветаў, асабліва ж іхнія наводжаныя цяжкай рукою парадкі. Пра ссылкі, для прыкладу, тады, у Шулецкай і Рудчыка час, не згадвалася. А вывазкі не абышлі бокам нават так прыхільнага камуністам Райска. У далёкую дарогу ў Алтай, у горад Бійск, так як і сям'я Войцеха Ярузельскага, была адпраўлена раенская сям'я Чарвінскіх...

Ірэна Цішук захавала ў памяці ўспаміны ейнага бацькі Мікалая Чарвінскага:

— Я ведаю толькі тое, што мне расказаў мой пакойны тата. Жыве яшчэ адна татава сястра, у Гусаках. Мой тата з 1929 года, а ў 1941 быў вывезены. Тата гаварыў, што было ўжо лета. Вярнуліся ў 1946 годзе, пасля пяці гадоў, а дзіця больш помніць дрэннае, чым добрае. Разам з нашымі была вывезена сям'я Багінскіх з Гароднік, што за Відавам; яшчэ павінны быць у жывых вывезеныя з тае сям'і. Мой муж быў на працы згаварыўся з адным з Багінскіх пра тую ссылку і так спатыкаліся. Сцяпан Багінскі быў равеснікам майго тата; ягоныя сёстры таксама былі вывезены. Адна з Багінскага дачок у Храболах замужам.

Мы жывем „За гарою", бо так, гледзячы ад Плюціч, мы за гарою, на якой царква. А там, ад Плюціч, жывуць „На Лубіне". Жыды, пра якіх згадвае Шулецкая ў сваёй кніжцы, да вайны былі ў нас, але яны трымалі карчмы, ветрака не было.

бо ў дзеда з бабай было каля шасцідзесяці гектараў поля — гэта было многа. Прыехалі падводы рана, сказалі што ўзяць з сабою, завезлі ў Бельск, там пагрузілі ў поезд. А адсюль, як ад'язджалі, то ўжо падпалілі. Дзеда не было ў той час дома — баба казала, што быў за граніцаю. Вывезлі толькі бабу і чацвёрку дзяцей. І як яны паехалі, то і не ведалі, што тут, у Райску, рабілася. Вярнуліся ў маі 1946 года. Дзеда ўжо не было, яго забілі. Дзед, калі даведаўся, што па нашай сялібе асталіся адно папялішчы, то знайшоў сабе нейкую бабу, у іх нарадзіўся сын; яго, таго свайго дзядзька, я пазнала будучы ўжо паненкай. Называўся ён таксама як і мой тата — Мікалай. А дзед паставіў яшчэ хату сабе і той сваёй каханцы пры самой дарозе са Сталавача ў Гусакі; я нават у той хаце нарадзілася. Як татава сям'я вярнулася са ссылкі, то тут было ўсё папалена і людзі сказалі, што ёсць хата: Параска (так называлася мая баба), Павел (так называўся мой дзед) паставіў хату. То куды ж Параска з дзяцьмі пойдзе? Пайшла ў тую хату. І сказалі ёй, што дзеда пахавалі ў Бельску. Хто забіў дзеда — невядома, мабыць банды. І тая дзедава бабіна — яна была з Дакторцаў ці недзе адтуль, пасля таго вярнулася з дзіцём да сваіх бацькоў, а хата асталася.

Як забралі іх адсюль, то ехалі яны поездам, доўга ехалі. Завезлі іх у горад Бійск. Было там вельмі цяжка. Хлеб быў рацыянаваны. Кліматычныя ўмовы вельмі цяжкія. Людзі хварэлі, вельмі многа ўмірала. Нашым пашанцавала — усе яны вярнуліся. Голад быў несамавіты. Тата мой пасвіў кароў. Далі якуюсь хату. Зімы былі суровыя, а леты гарачыя. Палілі кізяком — каровінымі адходамі. Баба і дзве старэйшыя мае цёткі працавалі ці то ў калгасе ці саўгасе. Кожны хацеў сваіх накарміць. То дзе змерзлыя ці гнілыя картофлі выкідалі — тата з Багінскім часта ўспаміналі плачучы, як яны змерзлыя


У гэтай хатцы кватаравалася Мар'я Шулецка

Шулецкая піша пра Красны гарадок — нашы называлі тое месца Гарадком, ёсць такое месца на Хрябольшчыне, у лесе, там яшчэ напэўна сляды захаваліся. Як расказвала мая бабуля з Плюціч — адкуль мая мама — там стаяла савецкае войска. Там яшчэ зараз сляды дваццаці дзвюх зямлянак, і займалі яны вялікую плошчу; сёлета на восені я нават там была. Гэта з дарогі, што з Храболаў у Плюцічы, недзе пасярэдзіне лесу, але між Храболамі і Дзніскамі: налева, у наш паўднёвы бок, ёсць дарога да вадазабору, а ў другі бок адыходзіць межавая дарога між Храболамі і Плюцічамі, якая даходзіць да Арлянкі; і ад тае дарогі направа будзе той Гарадок. Гэта за капліцаю, нават ад капліцы туды дарога. Нашы людзі ў той Гарадок хадзілі да працы, бо ж і пральня там была, і іншае. Я, як была меншай, то даволі шворнай была, а там, на месцы Гарадка шмат яшчэ чаго і пасля вайны асталося. І як хлопцы ішлі, то і я з імі таўклася і збірала ўсялякую непатрэбшчыну, за якую не раз мне даставалася. Там праходзіў фронт, ішлі баі. Я яшчэ помню, як з балота адтуль выцягвалі нямецкі танк. А так, то я ўсялякія снарады прыносіла дахаты — неслі хлопцы, то і я несла — гэта недзе ў канцы 1950-х гадоў было. Яшчэ пару гадоў таму назад на лясной дарозе ад нас у Гусакі праехаў грэйдэр і выкаціў шмат неўзарваных снарадаў. І яшчэ напэўна шмат такіх памятак ад вайны ляжыць у навакольных лясах; не дай Божа нейкай бяды ад іх. У напрамку Плюціч насаджаны лес на палях, але тут, у нас, калі б давялося высечы лес і насадзіць новую пасадку, то не ведаю, ці я адважылася б нават у сваім лесе насаджваць і араць. Цяпер баялася б, а калісь не.

Вывозілі багатых і інтэлігенцыю. Мае дзяды, татавы бацькі, жылі на калёніі, не жылі ў вёсцы, бо ў нас у 1934 годзе была праведзена камасацыя. І хто хацеў, як гэта гаварылася, на вынас, той атрымліваў больш надзел зямлі. А ў вёсцы было цесна, сядзелі па два-тры гаспадары на адным панадворку, то дзед з бабай і з дзяцьмі рашылі выйсці на калёнію. Наша калёнія была далёка ад вёскі, каля трох кіламетраў, аж пад Сталавачом. І ў дзеда было многа поля, столькі, што нават парабкаў наймаў, бо сам не даў рады ўсяго абрабляць. Але ніхто з маіх сямейнікаў не сказаў, што вывазка магла адбыцца ў выніку нейкага даносу. З Райска была вывезена толькі сям'я майго тата,

і гнілыя картофлі елі. То добра было, як з калхоза тую бульбу выкідалі, то дзеці маглі назбіраць яе. Была там таксама бойня, і добра было, як паведамлялі, калі білі быдла; гаварылі: будзем спускаць у раку Бію кроў. То лавілі згусткі крыві і абрэзкі нейкага мяса выкідалі дзецям, каб тыя мелі што есці. А зімою кароў тата не пас, так мусіў пепратрываць. Ці тата там вучыўся? Да вайны тут хадзіў у школу, у польскую. Але там хіба таксама тата ў школу хадзіў, бо па-руску ён чытаў і пісаў; самавукам ён пэўна гэтаму не навучыўся б. А тата па-руску чытаў плаўней чым па-польску. І тата многа чытаў — калі б ён не паехаў у Бельск, то ён ніколі не вяртаўся без кнігі. І тая цётка, што ў Гусаках, таксама шмат чытала.

Вярталіся паасобку, не разам. Спярша вярнулася мая цётка, пасля баба з татам і цёткай Нінкай, тою што ў Гусаках, бо яны найменшыя былі. А яшчэ адна цётка прыехала пару месяцаў пазней. Вярталіся поездам, у таварных вагонах, доўга ехалі. Прыехалі поездам у Бельск і з Бельска прыйшлі пехатою. Яны яшчэ нічога пра тое, што здарылася ў Райску, не ведалі. Яны з Бельска не кіраваліся ў вёску, толькі да сябе, на калёнію. Па дарозе жыў Грыша Шчарбінскі, якога Сібіраком называлі, бо ягоны дзед калісь таксама, мабыць, у Сібіры быў; а адзін на Амуры служыў, то яго Амурцам называлі; таго Амурца Аксеня і мая баба Параска былі роднымі сёстрамі. Тата спярша зайшоў да Сібірака, колішняга суседа з калёніі. Яго, хаця мінула шмат трывожных гадоў, пазналі. І той Сібірак кажа: Коля, ты вярнуўся. А жонцы кажа: Ганусю, дай есці; пасля так сталася, што яна вельмі мяне палюбіла. І сказалі тату: Не маеш, дзіця, на што ісці, бо па вёсцы адно камяні асталіся. Але татаў бацька пакінуў хату, каля гасцінца, што на Гусакі. Зайшоў таксама да таго Амурца, а там дзяцей шмат было, мо з дзевяцёра, яны ўсе елі з капанькі зацірку з малаком, а яму надалей есці хацелася, але яго не запрасілі да стала. Тата наймаўся на работу дзе толькі ўдалося. Па-суседску, у Сталавачы, католікі жылі, а вельмі добрыя гэта людзі былі. Мае мамы брат і татава сястра пажаніліся, такую „заменку" зрабілі.

(працяг будзе)

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Кулінарныя вандроўкі ў часе і прасторы

## ВЕЛІКАПОСНЫЯ стравы спадарыні Надзі


Надзея Андраюк

Надзея Андраюк нарадзілася ў 1929 г. у прынарваўскіх Целушках. Ад замуства называюць яе „Д'ядінка".

У вёсцы спыняецца аўтакрама з харчовымі прадуктамі. Пасярод невялікай чаргі пакупнікоў удавец — сусед спадарыні Надзі. „Добрая жанчына, — кажа пра яе, — у нашай вёсцы іншых няма. Кепскія даўно паўміралі, толькі добрыя засталіся".

Надзея, нягледзячы на перадсвяточныя заняткі (якраз чысціць ходнікі), не адмаўляецца прысвяціць свой час незнаёмай. На лавачцы сядзець яшчэ халаднавата, таму бабуля запрашае мяне ў цёплую драўляную хатку. Жыве адна, але, дзякаваць Богу, яшчэ ў сілах нават нарубаць сабе дроў і прынесці дахаты. Вельмі добра выглядае ў чорнай, шарсцяной, абвязанай кругом галавы і шыі хустцы. Сёння памыла галаву, таму не здымае яе нават у цёплай хаце. Надзея наракае на кепскі слых і памяць, але вельмі стараецца адказаць на кожнае маё пытанне. Ад часу да часу запыняемся ў нашай целушэцка-крынскай размове, каб растлумачыць усе незразумелыя словы.

— Калісь людзі шчыра пасцілі, нават малака не спажывалі, — гаворыць мая субяседніца.

За кухню ў хаце спадарыні Надзі адказвала не мама, але баба Лявося. Калісь каструль не было і ўсё варылі ў гліняных гаршках. Нават пабітых не выкідалі. Лопнецца, дык дротам аплятуць, каб не вылівалася, і зноў у печку суниуць. У пост баба варылі боршч з бэткамі (грыбамі) на ільняным алеі. Лён на алей вазілі пераробляць у Бельск. Была і бульба. Найбольш смакавала ў шкарлупінах, рассыпаная паміж чыгунамі ў гарачай хлебнай печы.

— І яны так папякуцца, і тады баба прынясуць нам і мы лупім і ядзім з агуркамі альбо кіслай капустай. Так мы снедалі. На полудзень найчасцей варылі куццю з бобам альбо з гарохам што-ленька, для прыкладу кулеш. Куляшом называлі суп з пакрышанай бульбы, гароху і засквaранай на алеі цыбулі. Пяклі галкі — посныя, дражджавыя булачкі са змеленай у жорнах мукі. Хлеб печаны на лісці капусты елі тры разы ў дзень. Папівалі альбо збожжавай кавай, альбо шчолакамкампотам з сушаных яблык і груш з сахарыкам. На вячэру заўсёды варылі аскрэбеную картоплю. Часам таўканіцы намнуць, а часам алеем паліюць і ядуць з халодніцай. Халодніца — гэта такі вельмі смачны напітак з нарэзанай цыбулі і хлебнага квасу. У рэчцы была рыба. Нават і бабы кломляю рыбу лавілі. Кломляй называлі сплецены з лыка вялікі невад, да абслугі якога патрэба было двух чалавек.

— Мы — не рыбакі. У нашай сям'і ніхто лоўляй не займаўся. Баяліся ракі. Гэта ж трэба было глыбока ўлезці, каб нешта зла віць. Мала хто быў рыбак. Адзін сваяк лавіў, дык па місачцы гасцінца прыносіў. Рыбы ніхто нікому не прадаваў, аддавалі без грошай. Альбо яе смажылі, альбо варылі з пакрышанай цыбуляй. Я адзін год так захварэла, што чуць не памерла. Мая дваюрадная сястра Ліда налавіла мне рыбы. Калі я рыбы наварыла, то адразу вычудзела (аздаравілася). Так мне тая рыба пасмакавала. Нават на сенакос у слоічку яе насіла. Селядцы елі вельмі рэдка, таму што каштавалі яны шмат грошай. Калісь па вёсцы ездзілі анучнікі — бедныя жыды з Заблудава, якія аддавалі селядцы за шматы. Найбольш селядцоў можна было дастаць за падраны суконны світар.

Мая субяседніца не паспела сёння атаварыцца ў аўтамабільнай краме. Ну што ж, госць у дом, Бог у дом, і трэба ім заняцца. Але ці гэта сапраўды вялікая страта?

— Не ведаю чаму калісь усё было такое добрае, такое смачнае. Цяпер усё кепскае, невядома ўжо што зварыць, што з'есці, — сумуе па прошлым спадарыня Надзя.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# 97-я ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі

Месяц сакавік — вельмі важны для беларускай дзяржаўнасці ў яе навейшай гісторыі. Менавіта ў сакавіку маем дачыненне да дзвюх падзей, што адзначыліся сваёй важнасцю не толькі на наступныя пакаленні, але і стагоддзі беларускага лёсу. Спачатку летуценная мара беларускіх палітычных рамантыкаў знайшла выяўленне ў Акце 25 сакавіка 1918 г. і абвяшчэнні незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Быць гаспадарамі на сваёй зямлі, не толькі ў сялянскім сэнсе, але і гаспадарыць беларусам з беларускага пункту гледжання ў сваёй дзяржаве — гэта менавіта самае важнае ў выспяванні палітычнай спеласці нашага народа. А народы і дзяржавы пры канцы Першай сусветнай вайны выбіваліся на незалежнасць не толькі палітычнымі дэкларацыямі, але і тысячамі ахвяр, прынесенымі ў змаганнях за сваё права на існаванне на новай, палітычнай карце Еўропы. Такія ахвяры былі прынесены і нашымі продкамі. Аднак суседзі аказаліся надта моцнымі ў мілітарным плане і бязлітаснымі ў палітычным. Здаўна вядома, што ў палітыцы няма аніякіх сантыментаў, пра што ўвесь час забываюцца прэтэндэнты ў беларускую палітыку. Для нас, беларусаў Беласточчыны, уваход у вялікую палітыку Першай сусветнай вайны з усімі яе паслядоўнасцямі заўсёды будзе асацыявацца з прыпадаючай у гэтым годзе сотай гадавінай бежанства нашых продкаў у глыб Расеі. Усе жахі гэтага перыяду сталі асновай беларускай гістарычнай памяці нашай сялянскай Беласточчыны. Таму менавіта беларуская меншасць у Польшчы з такой павагай зберагала памяць і зараз будзе ўшаноўваць цягам усяго года тыя падзеі, што паклалі свой адбітак на сямейнай і нацыянальнай гісторыі. Менавіта ў выніку бурлівых падзей таго перыяду значная частка тадышніх беларусаў Беласточчыны поўнасцю атаясаміла сябе беларусамі не толькі ў нацыянальным, але і ў палітычным вымярэнні, ды ўступіла на шлях змагання за ідэі Беларускай Народнай Рэспублікі.

Аднак праз тры гады пазней ад Акту 25 Сакавіка — 18 сакавіка 1921 года ў Рызе паміж бальшавікамі і палякамі была падпісана дамова, якая як нажом па жывым перарэзвала беларускія і ўкраінскія землі на дзве часткі. Дамова, якая не толькі падзяліла народы, але і затармазіла нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва гэтых краін. Якія гэта мела паслядоўнасці нават для сённяшняй гісторыі дастаткова зараз глянуць, як пасля дваццаці гадоў міжваеннай незалежнасці маюцца ў наш час Літва, Латвія, Эстонія, і што дзеецца цяпер з украінскай і беларускай палітычнай самастойнасцю. Усе тадышнія беларускія і ўкраінскія палітычна-грамадскія сілы, ад правых да левых, у адным былі згодныя: не прызнавалі рыжскай дамовы як палітычнай, трывалай развязкі. Абазначала гэта толькі адно — безупынны, не толькі палітычны, канфлікт паміж




польскай дзяржавай і нацыянальнымі меншасцямі. На другім баку мяжы, у савецкім „раі", людзі марылі толькі пра тое, каб дажыць да світання. А думаючых і дыхаючых па-беларуску хутка адпраўлялі ў бясконцыя сібірскія прасторы.

Калі нашыя суседзі расейцы і палякі ўвесь час безупынна зараз дамагаюцца ўзаемапрабачэння за свае бурлівыя гістарычныя дачыненні, то неяк на гэтай хвалі забываюць палітычна выбачыцца перад беларускім і ўкраінскім народамі менавіта за рыжскія дамовы. Ніхто і словам не заікнецца ў гэтай справе. З другога боку так будзе і далей, бо, на жаль, беларускія гісторыкі і палітыкі вядуць сябе, мякка кажучы, занадта карэктна ў той палітычна-гістарычнай дыскусіі. Таму надалей выпадае нам наглядаць у многіх асяроддзях з аднаго боку за міфалагізацыяй гэтак званых Усходніх Крэсаў — як месца толькі польскай прысутнасці, а з другога — аспрэчваннем беларускасці ўсходніх нашых этнаграфічных зямель. А ўсё з-за дзяржаўнай слабасці.

І калі расейскі нацыяналіст Уладзімір Жырыноўскі апошнім часам двойчы адкрыта прапанаваў падзяліць Украіну паміж Польшчай і Расеяй, то гэта не толькі палітычны фальклор, але і спроба запусціць, прынамсі ў разведвальным плане, дэманы мінуўшчыны. А такое без ведама Крамля не бывае. Сёння Кіеў, а заўтра Мінск можа быць прадметам гандлю за ўсялякія мірныя развязкі. Усё магчымае пры такім падыходзе і разуменні палітыкі сусветнымі ўладарамі. Тады, на жаль, ізноў можа залунаць дух рыжскіх дамоваў над гэтай часткай Еўропы. Бо, як вядома, гісторыя любіць паўтарацца.

Таму, святкуючы 97-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі, мусім мець на ўвазе ўсе тыя сур'ёзныя выклікі, якія сталі сёння перад беларускім народам нягледзячы на месца яго пражывання. Нам, беларусам у Польшчы, гэта перш за ўсё надалей павінна быць самаарганізаванасць і карыстанне з абавязваючых еўрапейскіх і польскіх законаў, ад якіх, на жаль, часта самі адмаўляемся. І гэта наш найбольшы сорам і выклік для беларускай нацыянальнай меншасці. Але калі вось нядаўна у нядзелю, 22 сакавіка, такой вялікай грамадой святкавалі мы юбілей дзевяностагоддзя нашага народнага паэта Беласточчыны Віктара Шведа, то насуперак усім нядобразычліўцам можам упэўнена заявіць, што жывуць яшчэ беларусы Беласточчыны, так як жыла і будзе жыць Беларусь. Таму і адсюль наш сакавіцкі кліч: **Жыве Беларусь!**

**Яўген ВАПА**



Два тыдні таму ў „Ніве" мы распавядалі аб унікальнай у Беларусі з'яве — Літаратурным доме „Логвінаў". Нагадаю, ён унікальны тым, што гэта адна з адзінкавых кропак адасобленай беларускасці ад цяперашняй псеўдабеларускай атмасферы, насаджанай постсавецкімі ідэолагамі лукашэнкаўскага разліву. Тым не менш з-за антыбеларускага чыноўніцкага свавольства над гэтай выспай беларушчыны навісла рэальная пагроза знікнення.

У Беларусі ўлады ўжо даўно для расправы з няўгоднымі арганізацыямі выкарыстоўваюць эканамічныя спосабы. Так і ў выпадку з кнігарняй „ЛогвінаЎ", якая, пэўна, надта мазоліла вочы антыбеларускаму лобі ў калідорах улады. Таму на выдавецтва „Логвінаў" быў накладзены велічэзны штраф, з-за чаго пад пытанне пастаўлена далейшае існаванне ўстановы. Але за гады свайго існавання „Логвінаў" набыў шмат сяброў, якія спрабуюць не даць яму зникнуць. Менавіта з мэтай захавання выдавецтва, а адпаведна і кнігарні, быў кінуты кліч па грашовую дапамогу і створаны сайт, які так і называецца „#SaveLohvinau". Ён месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://savelohvinau.club**, дзе на васьмі розных мовах распавядаецца аб праблемах „Логвінава".

„У кастрычніку 2013 года выдавецтву «Логвінаў» была скасавана ліцэнзія за выданне альбома «Прэс-фота Беларусі-2011», які прызналі экстрэмісцкім за публікацыю фотаздымкаў. Са студзеня 2014 года ў Беларусі ўсіх кнігараспаўсюднікаў абавязваюць праходзіць працэдуру дзяржаўнай рэгістрацыі. Чыноўніцкія перашкоды дэ-факта выконваюць функцыю цэнзуры. «Кнігарня» Логвінаў" спрабавала зарэгістравацца шэсць разоў на працягу года, пры гэтым пастаянна атрымліваючы адмовы з надуманых падстаў", — распавядаецца на галоўнай старонцы ў артыкуле „Свабоду кнігам!".

Штраф, які патрабуюць лукашэнкаўскія чыноўнікі, нягледзячы на сваю беспадстаўную адмову ў рэгістрацыі, — 967 мільёнаў беларускіх рублёў. Па цяперашнім курсе беларускай валюты, гэта 65 358 долараў ЗША.

„Мы мусім заплаціць гэты непад'ёмны штраф, роўны гадавому абароту прадпрыемства. Толькі з вашай дапамогай выдавецтва і кнігарня змогуць прадуктыўна працягваць сваю працу", — распавядаецца далей у артыкуле-адозве, дзе адзначаецца, што такая сітуацыя паставіла пад пагрозу магчымасць свабодна выдаваць у Беларусі кнігі і перадаваць іх у рукі чытачу.

„Мы прывыклі атрымліваць грошы за нашыя кнігі. Мы не прывыклі прасіць", — кажуць рупліўцы выдавецтва. І сведчаннем таму ёсць аўкцыёны, якія праводзіць кнігарня, каб сабраць неабходную суму для выплаты штрафу. Пра адзін з такіх дабрачынных аўкцыёнаў распавядаецца на асобнай аднайменнай старонцы. На ім можна пабачыць карціны, якія вырашылі ахвяраваць на дапамогу кнігарні беларускія і польскія мастакі. Нягледзячы, што ён ужо скончыўся, аб акцыі даецца падрабязны расповед на старонцы „Навіны". Адтуль мы даведваемся, што яе арганізавала польская мастачка Цэліна Кануннікава.

Ну а пра тых, хто ахвяруе свае грошы ў падтрымку кнігарні, распавядаецца на старонцы „**Our Benefactors**". Некаторыя з іх пакінулі таксама свае запісы ў падтрымку выдавецтва.

Як стала вядома на момант напісання артыкула, выдавецтву ўдалося сабраць патрэбную суму і нават больш за яе, а менавіта — амаль 66 тысяч долараў.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Даследнік Арктыкі беларускага паходжання

# 130 гадоў з дня нараджэння Барыса Вількіцкага



Гідрограф і геадэзіст Барыс Вількіцкі, які меў беларускія карані, нарадзіўся ў Пулкаве пад Пецярбургам. Ягоны бацька Андрэй Вількіцкі нарадзіўся ў Барысаўскім павеце на Міншчыне і быў таксама навукоўцам таго ж кірунку, прымаючы чынны ўдзел у арктычных экспедыцыях.

Барыс Вількіцкі ў 1908 г. скончыў Марскую акадэмію ў Пецярбургу. Удзельнічаў у чыне мічмана ў расійска-японскай вайне. У 1908 г. скончыў Мікалаеўскую марскую акадэмію на гідраграфічным аддзеле. У 1913-1915 гг. ён узначальваў гідраграфічную экспедыцыю ў Паўночным Ледавітым акіяне на ледакольных транспартах «Таймыр» і «Вайгач». Экспедыцыя мела на мэце апісанне берагоў Паўночнай Сібіры і правядзенне гідраграфічных прац на трасе Паўночнага марскога шляху.

У чэрвені 1913 г. караблі выйшлі з Уладзівастока. «Таймыр» у пошуках гіпатэтычнай Зямлі Саннікава ахінуў з поўначы Новасібірскія выспы. Сустрэўшыся ля вострава Перамянення, ледаколы пайшлі на поўнач, адкрылі бухту Прончышчавай і востраў Малы Таймыр. 21 жніўня маракі заўважылі вялікі, невядомы востраў. Па шырокай прасторы караблі прайшлі ўздоўж яго ўсходняга ўзбярэжжа каля 330 кіламетраў і, сустрэўшы непраходныя ільды, павярнулі назад. Непадалёк ад Малога Таймыра быў адкрыты востраў Старакадомскага. У лістападзе караблі вярнуліся ва Уладзівасток.

У чэрвені 1914 г. пачалася новая экспедыцыя з Уладзівастока з мэтай здзейсніць скразное плаванне Паўночным марскім шляхам з усходу на захад да Архангельска. Цягам маршруту быў адкрыты невялікі востраў (цяпер востраў Жохава) ва Усходне-Сібірскім моры. Урэшце караблі ўмерзлі ў ільды і спыніліся на зімоўку каля заліва Дзіка. У канцы чэрвеня 1915 г. судны вызваліліся з ільдоў і ўрэшце прыбылі ў Архангельск, завяршыўшы першы скразны рэйс у заходнім кірунку. У выніку экспедыцыі было зроблена апісанне ўзбярэжжа Паўночнай Зямлі, сабраныя картаграфічныя, акеаналагічныя і метэаралагічныя матэрыялы. За адкрыццё новых зямель у Арктыцы Барыс Вількіцкі быў узнагароджаны Рускім геаграфічным таварыствам Канстанцінаўскім медалём. Матэрыялы той экспедыцыі ў час Першай сусветнай вайны былі эвакуяваны ў Яраслаўль. На жаль, у час падаўлення антыбальшавіцкага паўстання і артылерыйскага абстрэлу, яны амаль усе былі знішчаны.

У 1918 г. Барыс Вількіцкі ўзначаліў першую савецкую гідраграфічную экспедыцыю ў Арктыцы, але ў Архангельску яна была захоплена Брытаніяй. У пачатку 1920 г. даследнік эміграваў у Англію. У 1923-1924 гг. па запрашэнні савецкіх знешнегандлёвых арганізацый Вількіцкі ўзначальваў тавараабменныя экспедыцыі. Пазней ён многія гады працаваў гідрографам у былым Бельгійскім Конга (цяперашняя Дэмакратычная Рэспубліка Конга) у Афрыцы.

Памёр Барыс Вількіцкі ў Брусэлі 6 сакавіка 1961 г. У наш час яго парэшткі былі перапахаваны ў Пецярбургу на Смаленскіх могілках на месцы спачыну бацькі і брата. Імем падарожніка Вількіцкага названы праліў паміж Паўночнай Зямлёй і паўвыспай Таймыр, а таксама востраў у Карскім моры. Усяго гэта прозвішча носяць ажно 9 тапонімаў. У 2013 г. пошта Расіі выдала адмысловую марку-блок у гонар Вількіцкага.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**





# Пяклі „буславыя лапкі” і малявалі яйкі

Пасля поўдня 27 сакавіка гэтага года ў святліцы ў Старым Ляўкове (Гайнаўскі павет) было шумна. Прыехалі і прыйшлі маладыя і старэйшыя жыхары Старога Ляўкова, Новага Ляўкова, Падляўкова, Лешукоў і Семяноўкі навучыцца, між іншым, маляваць яйкі пад кірункам самай вопытнай у нас Марыі Рэент са стараляўкоўскіх калёніяў. Ужо раней было вядома (былі каляровыя аб'явы на дошках у Новым і Старым Ляўкове) што ў святліцы будуць таксама пячы „буслявыя лапкі” пад наглядам Лідзіі Харкевіч з Лешукоў (вядомай у тутэйшай акрузе каравайніцы) ды ўпрыгожваць вербачкі, якія панясуць у Вербніцу асвяціць у царкве.

Курыныя і гусіныя яйкі малявалі акварэльнай фарбай і воскам ды красілі — як гэта здаўна прынялося і вядзецца перш-наперш на Беласточчыне — у цыбульніку. Сёлета ўпрыгожвалі яйкі яшчэ іншым спосабам, пры дапамозе новай тэхнікі — дэкупаж. Вучыла гэтай тэхніцы Галіна Панькоўская з Семяноўкі. На працягу пару гадзін удзельнікі велікодных майстар-класаў памалявалі многа яек у самыя розныя колеры і ўзоры.

Пры трох століках дзеці і моладзь пад кірункам інструктаркі Нэлі Харкевіч з Новага Ляўкова вучыліся ўпрыгожваць вербачкі цудоўнымі кветкамі з рознакаляровай паперы (робіць іх вопытная ў гэтай дзялянцы спадарыня Нэля) ды дробненькімі зялёнымі галінкамі аспарагуса, якія вяжуць вузенькімі каляровымі стужкамі.

На заканчэнне заняткаў (прыйшлі на іх прадстаўніцы не толькі прыгожага полу, але і трох мужчын) усе частаваліся салодкімі дражджавымі булачкамі „буславымі лапкамі”. Мерапрыемства (сёлета, дзінаццатае) арганізавалі Крыстына Паскробка (кіраўнічка святліцы), Альжбета Кунцэвіч (старшыня Таварыства „Ятрышнік”) і Галена Марыёля Рэент (дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы).

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

# Аб чаромхаўскім рынку

Са слязінкай у вачах чарамшане ўспамінаюць мінулае дваццатае стагоддзе, калі на рыначку за магазінам «Паўшэхны» бурліла жыццё. На кірмашы заўсёды была процьма народу. А гэта таму, што ў «рускіх» можна было намнога танней купіць шматлікія тавары — ад прадуктаў, па вопратку і абутак ды бытавую тэхніку патрэбную ў дамашняй гаспадарцы. За свежым свіным кумпяком ці ялавічынай ездзілі мы ў Брэст. Па некалькі дзясяткаў кілаграмаў цягнулі людзі ў багажных сумках, што ў вагон ледзь прасунуліся. Для мытнікаў гэта таксама быў бізнес. Асабліва калымілі яны на кантрабандзе спіртнога і папяросаў. Нездарма прамому цягніку Беласток — Брэст прысвоілі мянушку «пшэмытнік» (кантрабандыст). Гэты промысел паспяхова працуваў з году ў год. Не стрымалі яго дзяржаўныя органы правапарадку па абодвух баках мяжы. Кантрабандыстам заранёў было вядома, калі ў Высокім ці Чаромсе або на пагранпераходзе Пяшчатка — Полаўцы будуць «чорныя брыгады». Але ўсё прайшло з «зімой халоднай», як пісаў Крылоў у байцы «Страказа і Муравей». З уваходам рыначнай экономікі адмянілі прамы цягнік у Брэст, пасля і рэйкавы аўтобус Чаромха — Высокае. На заняпад малога трансграічнага руху, на маю думку, паўплывалі візавы рэжым. Рыначак у Чаромсе без рускіх гэта правал у гандлі. Праўда, зараз на кірмашы за магазінам «Паўшэхны» ад айчынных гандляроў не прайсці, але пакупнікоў днём з агнём трэба шукаць. Супермаркеты «Аргелан» і «Левіятан» адбіваюць пакупнікоў...

Наведаў я ў пятніцу, 27 сакавіка чаромхаўскі рыначак. Ларкі прыватных гандляроў у пераважнай большасці прапанавалі замежную танную вопратку і абутак, галантарэю і штучныя кветкі. Вядома, набліжаецца Вялікдзень. Побач рыначка прыкмячаю аўтакраму з мяснымі вырабамі. Ніводнага кліента. Цікаўлюся цэнамі. Аказалася, што яны большыя, чым у нашых супермаркетах. Каўбаса «звычайная» каля 14 злотых, сальцісон — 12 зл., а «паштэтова» — 9 зл. Не гавару ўжо аб лепшых вырабах. Гэтыя не на маю пенсіянерскую кішэню. Зараз на палатку ад уезда прыкмячаю знаёмага садоўніка з Плятэрава. У яго адборныя яблыкі па 1,50 зл., меншыя — па залатоўцы.

— Ці ёсць выручка?

— Няма, — адказвае з сумам садоўнік. — Раней прадаваў я ў Чаромсе каля сямідзесяці скрынак яблык. Зараз дзевяць, у суботу — напалову менш. А гмінныя чыноўнікі патрабуюць за месца 6 зл., калі ў Кляшчэлях плацім адно 2 зл. Бургамістр станоўча паставіўся да просьбаў прыезджых агароднікаў і садоўнікаў ды панізіў стаўкі аплаты за пляц, бо разумее рыначную эканоміку. Гляньце самі. За месца плачу 6 зл., прытым і паліва з Плятэрава ў Чаромху каштуе некалькі дзясяткаў злотых. Аўчынка вырабу не варта. Не гавару аб затрачаным часе. Але прыязджаем дзеля сталых кліентаў. Мы ж як чарамшане. Ад дваццаці з лішнім гадоў супрацоўнічаем.

Варта пераняць прыклад кляшчэлеўскага самаўрада і падтрымаць садоўнікаў і агароднікаў, беручы пад увагу нізкія цэны агародніны і фруктаў.

— Калі зможаце, дык перадайце войту і раднымнашу просьбу. Будзем удзячны, — завяршыў размову плятэраўскі садоўнік.

Затым гэтыя словы адрасую чаромхаўскаму самаўраду.

Уладзімір СІДАРУК

*Юрый БАЕНА*

## *Вярба*

*Калекае дрэва*
*тутэйшых краявідаў.*
*Прыдарожная*
*падляшская Ніка.*
*На скрыжаваннях —*
*маці смутку і развітанняў.*
*Гаротніца,*
*на яе твары*
*раны, апёкі і шрамы.*
*На галаве*
*цярновы вянец.*
*Калі трэба,*
*між цемрай і святлом,*
*між смерцю і жыццём,*
*праз найглыбейшы снег*
*і праз агонь ідзе.*
*Шчырая, спагадлівая,*
*працявае рукі*
*прыгнечаным і зняважаным.*
*У зялёнай сукенцы*
*на крыллях вясны*
*надзею нясе —*
*хлеб душы.*
*Вястунка даўгалецця*
*Сонца і Зямлі.*
*Пальма беларуская,*
*польская,*
*славянская.*
*Вечна жывая*
*святая вярба...*
*У Вербную нядзелю*
*з намі яна*
*сустракае Хрыста!*

# Адгаданка

| | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | | | | | 2 | | | | | |
| | 3 | | 4 | | | 5 | | | | | | 6 | | 7 | | |
| | | | 8 | | 9 | | | | 10 | 11 | | | | 12 | | |
| | | | | | | | | | | | 13 | | | 14 | | |
| | | | 15 | | | 16 | 17 | | | | | | | | | |

1. зменнік ночы, 2. жыхар Варшавы, 3. сталіца Французскай Гвіяны, 4. цэнтр раёна ў міжрэччы Прыпяці і Дняпра на мяжы чарнобыльскай радыяцыйнай зоны, 5. ліпкі сок хваёвых раслін, 6. густое рэшата, 7. снарад дыскабола, 8. пажаданы схоў у спякоту, 9. у мяшку не схаваеш, 10. вялікая вёска, 11. выхаваўчая ўстанова для найменшых дзяцей, 12. прозвішча аўтара „Альпійскай балады”, 13. цячэ з Цянь-Шаня ў возера Балхаш, 14. каляжанка, 15. горад між Бельскам і Супраслю, дзе калісь працавала друкарня, 16. звязаны пук зжатых сцёблаў збажыны, 17. сталіца старажытнай Асірыі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. (ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 11 нумара**

Вус, гной, жыхар, меч, Піса, ручай, схоў.

Рашэнне: **Свой сухар смачней чужых пірагоў**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксею Туру** з Саколкі і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

# 05.04 — 11.04

**(22.03. — 20.04.)** 5-9.04. магчымыя напружанні ў адносінах. Цяжка будзе табе адкрывацца на людзей, наладжваць новыя сувязі. Дома хутчэй прасі, а не загадвай. Хтосьці можа цябе пакрытыкаваць, падкапаць твой аўтарытэт. Не спрачайся, бо выклічаш сусветны скандал. Пасля 8.04. неразвязаныя дасюль справы знойдуць пазітыўны фінал. Абавязкова схадзі да лекара — нейкая падступная нямогласць можа развівацца ў тваім арганізме.

**(21.04. — 21.05.)** Будзеш шукаць спакою і гармоніі. Закончы кепскія рэляцыі і перарабі прастору на новыя каштоўныя знаёмствы. 4-10.04. пабуджэнне і нервовасць. Але разгрузіш эмоцыі і лішак уражанняў. Незалежна ад спакус, старайся не жыць на крэдыт.

**(22.05. — 22.06.)** 4-8.04. пашчасціцца табе не толькі ў інтарэсах, але і ў адносінах. Атрымаеш важную вестку або каштоўныя падказкі. Спрыяе табе аграмадная сіла ад зорак. Папраў сваю дыету, цяпер можаш добра пахудзець. Калі шукаеш новую працу ці хочаш уключыцца ў нейкае мерапрыемства, зрабі гэта цяпер.

**(23.06. — 23.07.)** Прабудзі ў сабе цёплыя пачуцці, тады лягчэй паладзіш разбітае. У Ракаў у парах досыць нялёгкі цэлы месяц. Да 10.04. зоркі падмацуюць цябе ў радыкальных рашэннях. Разлічвай на сяброў — добры час на паглыбленне сувязей, наладжванне новых цікавых адносін. Хаця могуць быць праблемы ў цябе з братамі ці сёстрамі або далейшымі сваякамі; не ўсе паводзіны сябе прыстойна ў адносінах да тваёй асобы.

**(24.07. — 23.08.)** 4-8.04. добры час на пошукі працы, знойдзеш саюзнікаў, якія могуць табе ў нейкай важнай справе. У красавіку адпусці ўсе інвестыцыі, не пазычай нікому ані ў нікога грошай. Лады з сябрамі, нават з тымі, з якімі ў апошні час ты часта спрачаўся. 3-8.04. нядобры момант на радыкальныя прыёмы, бо можаш лёгка памыліцца.

**(24.08. — 23.09.)** Аб'ектыўна старайся ацаніць кожную сітуацыю. Аналізуй факты. У кампаніі не будзеш ленавацца і хавацца па кутках, людзі акажуць зацікаўленне тваёй асобай, што важна асабліва для той Дзевы, у якой няма сваёй другой палавінкі. 5-8.04. не прастудзіся. Дома ўвядзі большую дысцыпліну з дзецьмі.

**(24.09. — 23.10.)** Не будзеш мець цяпер шмат што сказаць у пары; калі не хочаш мець больш канфліктаў, уступі (акажацца, што партнёр мае рацыю). Самотным Шалям лёс падкіне рэдкі шанц! Можаш спаткаць кагосьці клапатлівага і чулага, прытым даючага табе шмат свабоды. Наконт аднаўлення старых знаёмстваў, падумай, што можа няма чаго ўваходзіць чарговы раз у тую самую ваду.

**(24.10. — 22.11.)** Могуць находзіць цябе назойлівыя думкі, якіх не дасі рады апанаваць (6-10.04.). Турбаваць цябе будуць моцныя эмоцыі; навучыся разгружаць напругі хаця б лёгкай фіззарадкай. Будзеш карыстацца вялікай папулярнасцю, незалежна ад таго ці ты свабодны. У пары свабода, прытым жар пачуццяў. Дома можаш усё спраўна запланаваць, адрамантаваць, купіць. Не спрачайся з блізкімі. Ашчаджай.

**(23.11. — 22.12.)** Цікаўнасць, імкненне да ведаў і ступіш крок у адпаведны бок, хуткі развой. Але можаш не дагаварыцца са сваякамі; не тлумачся. У здароўі пільнуйся, пазбягай прастуджаных і смаркатых.

**(23.12. — 20.01.)** Здаровы розум прыдасца асабліва 5-9.04., але слухай інтуіцыі. Не павучай свайго партнёра, не загадвай што мае рабіць. У красавіку больш здабудзеш, калі паставіш на сяброўства, а не на каханне. У гэтым месяцы пераканаеш усіх. Але ўсё ж адпачывай больш чым дзейнічай.

**(21.01. — 19.02.)** 4-10.04. можаш разгарнуць бізнес — будзеш мець гарантаваны поспех! У пачуццях не будзь пасіўны — будуць блізкасць, здзяйсненне, гарачыя жарсці. Калі цяпер з кімсьці звяжашся, дык надоўга. У сям'і будзеш бачыцца як мацнейшы і разумнейшы, твой вопыт можа памагчы табе змяніць сваё жыццё. Добра высыпайся, прагані чорныя думкі!

**(20.02. — 21.03.)** Будзь асцярожным у пачуццях, а тваім галоўным словам у любоўным слоўніку няхай стане «адказнасць». У размовах аб будучыні пытайся аб канкрэты, не дай звесіцца. Слухай свайго інстынкту! У іншым святле ўбачыш кагосьці, каго ведаеш здаўна. Манітарыў працу свайго сэрца. У красавіку атрымаеш нейкія неспадзяваныя грошы.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня:** Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet:** *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail:** *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня:** „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1300 egz.

Віктар ШВЕД

## Малітва

Божа наш Літасцівы, Магутны,
Божа наш Справядлівы, Адзіны!
Учыні, каб народ наш пакутны
Меў заўсёды сваю Айчыну.

Каб народ заставаўся народам,
У чужым не расплыўся моры.
Каб яго аб'ядноўвала згода
У свабоднай жыццёвай прасторы.

Каб народ не цураўся ніколі
Ні традыцый бацькоўскіх, ні мовы.
Каб ніколі не быў у няволі,
Не пакутаваў ніколі нанова.

Каб сваё больш цаніў ад чужога,
Каб адстойваў яго штохвіліну.
Дык папросім Магутнага Бога:
Захавай нас і нашу Айчыну!





Сімвалічныя букеты бел-чырвона-белых кветак атрымалі:

- Мікола Ваўранюк (справа) за шматгадовую, журналісцкую дакументацыю жыцця беларускай меншасці ў Польшчы і запіс у дакументальным кіно культурна-палітычнага жыцця Беларусі.
- Іаанна Стэльмашук-Троц за вяртанне ў беларускую прастору нашай меншасці тэатральнай пастаноўкі на высокім мастацкім узроўні. За пастаноўкі з маладымі людзьмі спектакляў на беларускай мове і яе падляшскіх дыялектах.
- Тамаш Ціханюк – дырэктар беларускага музея ў Гайнаўцы. За тое, што нягледзячы на ўсялякія цяжкасці стараецца паказваць жыхарам Гайнаўшчыны розныя формы і аспекты мінулай і сучаснай беларускай культуры.
І тут яшчэ жывуць людзі – насуперак многім – даказвае сваёй дзейнасцю.

# Дзень Волі ў Беластоку 2015



Супольна на сцэне Вінсэнт і дзіцячы калектыў «Баламуткі» з Беластока

Фота Ганны КАНДРАЦЮК



Пасля малебна за беларускі народ і Віктара Шведа ў беластоцкай царкве Агія Сафія ў нядзелю 22 сакавіка 2015 г.

ISSN 0546-1960